# ДЫК ПАВЫСІЛАСЯ НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ РАДЫЯЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ ЦІ НЕ?


НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №21 (178) 22 ТРАЎНЯ 2000 г.


# РАБЫ НЕДАВЕРУ

***Увесь тыдзень Менск устрывожана гуў. Чуткі разьляталіся, як вецер. Стрывожаныя бацькі абзвоньвалі дзяцей, наказваючы, каб тыя не выпускалі ўнукаў гуляць на двор. Пільныя дамы з раённых аддзелаў адукацыі абзвоньвалі з тымі ж мэтамі дзіцячыя садкі. Быццам бы Чарнобыль зноў выбухнуў. Быццам бы ўсе дыплaматы выехалі зь Менску. Быццам бы Лукашэнка пераехаў з Драздоў у бункер.***

Усё пачалося з таго, што супрацоўнікі ізраільскага пасольства памералі радыяцыю ў сябе ў памешканьнях, і аказалася, што яна павышаная проці нармальнай у 6—7 разоў. Дыпляматы сабралі валізкі і рушылі ў поўным складзе дадому ў Ерусалім правярацца. Нашы людзі на жыдоў традыцыйна зважаюць і да жыдоў прыслухоўваюцца, таму гэты ад'езд, ясная рэч, заўважылі. Уяўляю сабе, як пакаёўка нейкаяаташэ тэлефануе сваім прыяцелькам, каб паведаміць ім найнепрыемную зьвестку... За лічаныя дні навіна абляцела паўкраіны. Дарма Міністэрства па надзвычайных сытуацыях завярала: радыяцыю стацыянарна мераюць ва ўсёй краіне і за апошні час ваганьні ў межах 10—25% ад звычайнага ўзроўню зафіксаваныя толькі ў без таго моцна забруджаных раёнах — у Ветцы, Нароўлі, Брагіне, што зьвязанае з варыяцыямі сонечнай актыўнасьці, а таксама зь пясчанымі бурамі і пажарамі на тарфяніках у выніку двухмесячнай сушы. Дарма навукоўцы-фізыкі з Акадэміі Навук пацьвярджалі зьвесткі міністэрства. Ніхто ім ня верыў, паніка апанавала палову менчукоў. Уяўная радыяцыя засьціла ўсе падзеі тыдня, аказалася важнейшая і за выбух «Фарда-Скорпіа» на праспэкце Машэрава з найманымі забойцамі ў ім, і за канец працэсу Чыгіра — вянец драмы самападманутай беларускай намэнклятуры, важнейшая за візыт украінскага прэм'ера-рэфарматара Юшчанкі, за 95-годзьдзе народнай актрысы Стэфаніі Станюты, за працяг шантажу «Газпрому», які хоча прыватызаваць наш дзяржаўны скарб, газаправоды «Белтрансгазу».

Пры гэтым у навінах нашых СМІ, апроч, хіба што, «Радыё Свабода», яна заняла далёка не адэкватнае месца. Сапраўдная неэфэктыўнасьць нашай інфармацыйнай сыстэмы: усе новы раз упэўніліся, што радыё FM і расейскамоўныя газэты калі што й могуць, дык толькі капіяваць маскоўскія арыгіналы. Калі ж Масква пра нешта маўчыць, маўчаць і яны.

Прычыны падвышанага фону ў амбасадзе — калі ён сапраўды быў — найхутчэй могуць тлумачыцца ўласьцівасьцямі бэтону, зь якога будынак змураваны, або нечым падобным. Але гэткія *навуковыя* прычыны людзей якраз найменш цікавяць. Навуковым тлумачэньням яны найменш вераць. Як і паказаньням дазымэтраў. Надта часта ў сваім жыцьці людзі бачылі, як прыборы паказвалі тое, што загадвала партыя. Вось каб газэты напісалі, што гэта Амэрыка скінула на Беларусь з космасу нябачную для чалавечага вока ўранавую бомбу, або што выбухнула ядзерная боегалоўка, якую расейцы цішком разьмяшчалі пад Пухавічамі, або што сіяністы рыхтуюць помсту ўсенароднаму фашысту за славянскае яднаньне, людзі паверылі б, і абмяркоўвалі б, і клялі б, і плакалі, і абдымаліся, і пілі б ад радыяцыі гарэлку і чырвонае віно.

Нават замежнікі робіцца закладнікамі недаверу, разьлітага ў беларускім паветры. І вось ужо амэрыканская амбасада замаўляе ў Вашынгтоне дазымэтрысты.

Людзі хочуць таямніцы? Хочуць падману?

Апроч неэфэктыўнасьці беларускіх СМІ, жахае цемрашальства нашага люду. Я быў сьведкам ладнай дыскусіі пра радыяцыю паміж калегамі — прафэсарамі, дацэнтамі і проста старшымі выкладчыкамі ўнівэрсытэту. «Усё адно нам праўды ніхто ня скажа», — хорам казалі тыя, што ўжо галасавалі за Лукашэнку на трох выбарах і двух рэфэрэндумах і прагаласуюць за яго яшчэ тройчы. — «Ды мы ўсе тутака абрачонныя». — «Але, — падтаквалі іншыя, — вось наша рэктарка вернецца з Кіева, яна ўсё раскажа, што там чуваць». — «Вой, а я ўчора хадзіла на Камароўку, і там жа мне ніхто нічога не сказаў!»

Сьвет цяперашні складаны, занадта складаны для людзей, выгадаваных беларускай сыстэмай адукацыі. Людзям хацелася б, каб сьвет быў прасьцейшы. Каб простыя людзі ім проста кіравалі, простыя заданьні ім давалі, каб проста жылося, каб усе хваробы можна было вылечыць гербалайфам або піцьцём уласнай мачы, каб аднакава каштаваў ува ўсіх крамах хлеб, аднакава вучылі ўва ўсіх школах і аднакава лячылі ўсе дактары. Каб ня трэ было рабіць у жыцьці ніякага выбару. Калі сьвет не спрашчаецца, яго міталягізуюць і насяляюць хімэрнымі ўяўленьнямі. Замест таго, каб спазнаваць сьвет зь ягонымі няпростымі законамі і схемамі функцыяваньня, людзі абараняюцца суцэльным недаверам да яго — да палітыкаў, якіх не відаць, да эканамістаў, якіх не зразумець, да журналістаў, якія нездарма гэтак добра жывуць. Ідуць па жыцьці з адчуваньнем вечнай падманутасьці. І трапляюць з-за гэтага свайго недаверу ў вечныя пасткі, бо вераць толькі ў тое, што пацьвярджаецца адзіным знаёмым ім мысьленьнем па аналёгіі. А вядома, што ніякі чарнобыль двойчы не паўтараецца.

Праяўляецца ў гэтым слабасьць асьветніцкіх традыцыяў у Беларусі, адбіваецца дзесяцігадовы ідэалягічны вакуум, даецца ў знакі схаластычнасьць нарматыўнага курсу філязофіі і грамадзкіх навук, спрацоўваюць даўнія кагэбісцкія тэхналёгіі маніпуляцыі грамадзкай сьвядомасьцю з дапамогай усялякіх Кашпіроўскіх і Кудраўцавых, дадае жару адвечны расейскі інтэлігенцкі нігілізм, узьведзены ў ранг пазыцыі нашай недзяржаўнай прэсай, які рыкашэтам б'е па самой прэсе: «Мы ня верым ні ўладзе, ні апазыцыі», — пішуць газэты, — «а мы ня верым ні дзяржаўным, ні незалежным», — махаюць рукамі прафэсары. Але найперш кожная такая раптоўная і камічная гістэрыя выяўляе, наколькі не даюць рады сваім функцыям тыя грамадзкія інстытуцыі, якія па вызначэньні маюць выхоўваць у людзях схільнасьць да рацыяналізму і пазытывізму — абавязковае войска, сярэдняя школа, мэдычная сыстэма.

Няма даверу да навукі, да дзяржавы і мэдыяў. Няма надзеі на будучыню. Адно пачвары скастоўваюць з сну розумаў і крысу давераў. А людзі застаюцца ў палоне сваіх аблудаў.

**Андрэй Дынько**



Фота IREX-ProMedia

# ЧЫГІР — НА КАРОТКІМ ПАВАДКУ

***Лукашэнкава ўлада пацьвярджае сваю вернасьць палітыцы паўрэпрэсіяў у дачыненьні да палітычных апанэнтаў. Апазыцыянэраў не забіваюць, а садзяць у турмы ці на падпіску, незалежныя газэты не зачыняюць, а абкладаюць папярэджаньнямі, каб у любы момант магчы зачыніць «на законнай падставе». Трыманьне на кароткім павадку дэмаралізуе апазыцыю, не дазваляе ёй стаць больш рашучай і радыкальнай, бо нібыта застаюцца шанцы на легальнае змаганьне. У мінулую пятніцу быў абвешчаны прысуд Міхаілу Чыгіру: тры гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на два гады і пяць гадоў забароны на займаньне дзяржаўных пасадаў. Пра падзеі пятніцы і гутарка зь Міхаілам Чыгіром — на старонцы 3.***

## Лукашэнкавы прызначэньні

Віктар Гайсёнак, былы міністар адукацыі, прызначаны паслом Беларусі ў Аўстрыі. Сярод іншых прызначэньняў кідаецца ў вочы падвышэньне Ўладзімера Ўсхопчыка, які браў штурмам віленскую тэлевежу ў 1991-м, у намесьнікі міністра абароны. Памяняюць і кіраўніка хакейнай фэдэрацыі: пра гэта абвесьціў міністар спорту Яўген Ворсін. Раней ім быў кіраўнік службы бясьпекі прэзыдэнта Ю.Бародзіч, які цяпер прызначаны прадстаўніком КГБ Беларусі ў ФСБ Расеі і ўжо год, як жыве ў Маскве. «Ці можна, жывучы ў іншай дзяржаве, кіраваць унутранымі справамі суседняй?» — задаў на прэс-канфэрэнцыі пытаньне Я.Ворсін.

## Стаўка рэфінансаваньня зьніжаная

Нацбанк зьнізіў яе на 10%. З 22 мая яна будзе 100% гадавых. На пачатку году яна была 175% гадавых, аднак з 15 сакавіка пачалося яе зьніжэньне, бо інфляцыя меншае (5,1% за красавік). Гэтая стаўка вызначае, пад які працэнт прадпрыемствы могуць браць у банках крэдыты. Між тым аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выробленага ў Беларусі ў студзені-красавіку, аказаўся на 5% большы, чым летась. У прамысловасьці рост на 6,1%, у сельскай гаспадарцы і на транспарце спад — на 8,5 і 14,4%. 33,9% прадпрыемстваў стратныя. Рэнтабэльнасьць прадукцыі зьнізілася з 13,9% летась у гэты пэрыяд да 9,5 сёлета.

Бяды дадалі прымаразкі: загінула 14% пасеяных азімых і 5% яравых, шмат дзе памерзьлі мнагалетнія травы і агародніна.

## Кароляка маюць вывезьці

20 траўня скончыўся тэрмін, які далі берасьцейскаму пробашчу З.Кароляку на «добраахвотны» выезд. 4 гады Камітэт па справах рэлігіяў адмаўляў яму ў прадаўжэньні рэгістрацыі, аднак Каралях, як і належыць у такіх выпадках іншаземцу, рэгістраваўся ў аддзеле віз і рэгістрацыяў раз на тры дні, аж пакуль яму не загадалі выбірацца ў Польшчу. Берасьцейскія каталікі працягваюць дыжурыць проста ў касьцёле, каб адстаяць свайго ксяндза.

**Паводле інфармацыяў БелаПАН падрыхтаваў Б.Т.**

## Збліжэньне з народам

Пасьля шырока адзначанага ўладамі Дня перамогі і шырока адзначанае народам Радаўніцы 10 траўня на працу ня выйшлі адразу два намесьнікі старшыні Крычаўскага райвыканкаму. М.Гердзій прынёс потым бальнічны ліст, а другі, А.Ляпешка, ніяк ня змог апраўдаць прагул. Дык вымусілі яго напісаць заяву на звальненьне па асабістым жаданьні. Зразумела, такое нязначнае злачынства не магло быць прычынай для звальненьня. Мабыць, нешта тут яшчэ было.

Пасьля гэтай значнай для Крычава падзеі становіцца неяк радасна і ўтульна — выходзіць, тыя, хто кіруе намі сёньня, вельмі блізкія да народу. Бо часьцяком пасьля розных сьвятаў простыя рабацягі альбо «хварэюць», альбо прагульваюць працу. А тут такія «вялікія» людзі! Збліжэньне з народам у сёньняшняй улады адбываецца не на словах, а на справе.

**А.К., Крычаў**

лісты ў рэдакцыю

## «Бясплатная» адукацыя

*З кожным днём усё больш пераконваесься, што нашы сыстэмы адукацыі і сацыяльнай аховы вельмі хутка «прагніваюць».*

*З 12 траўня ў школах Менску адмянілі «бясплатныя сьняданкі». Дырэктары школ кажуць, што міністэрства не пералічвае грошай, нават кухары не атрымліваюць зарплату ўжо некалькі месяцаў. Гэтым яны апраўдваюцца перад галоднымі шкалярамі, якіх прымушаюць самастойна набываць абеды за свае грошы.*

*Некалькі гадоў таму нас прымусілі плаціць за падручнікі, і мы згадзіліся. Таксама цяпер вельмі рэдка можна сустрэць прыбіральшчыц, якія мыюць клясы. Гэты абавязак «павесілі» на вучняў — мы і з гэтым згадзіліся. Яшчэ адно: цяпер усе вучні павінны кожны год рамантаваць самастойна сваю клясу. Дый грошы даводзіцца здаваць на гэтую справу не малыя, ня ўсе могуць гэта зрабіць. Напрыклад, у клясе майго сябра на рамонт павінны сабраць сто даляраў увогуле. Мы і з гэтым згаджаемся.*

*Што кіраўніцтва яшчэ прыдумае, застаецца толькі здагадвацца.*

**Максім Іванцоў, Менск**

## Леў Талстой як люстэрка

*На экране — узрушаны расейскі генэрал. Чарговая непрыемнасьць. Злыдні-чачэны «подла абстралялі нашых хлопцаў». І настолькі генэрал гэтым абураны, што спачатку думаеш: мо чачэны гэтак па-хамску сябе паводзілі дзе-небудзь пад Вологдаю ці Разаньню? Ды не. Хлопцы былі далёка ад родных мясьцінаў, а злыдні нашмат бліжэй. Хоць для генэрала гэта, пэўна, «спакон расейская зямля».*

*Цікавы выраз: «подла абстралялі». Расейскія кантрактнікі бадай абстрэльваюць высакародна ці пяшчотна. Напрыклад, як абстрэльвалі тых жа чачэнаў пад час Каўкаскае вайны мінулага стагодзьдзя. За 47 гадоў тае высакароднасьці чачэнаў паменела на дзьве трэці. Ці так, як у час бамбаваньняў нядаўняга часу, калі ад насельнікаў грозьненскага дзіцячага дому засталіся толькі крывавыя плямы. А можна яшчэ больш высакародна. Арганізаваць масавы выезд у Казахстан у вагонах для скота, а тых, хто непрыгодны для такой экскурсіі, спаліць жыўцом. Усё гэта пішуць не на сайце «Каўказцэнтру» й ня лорд Джад, а такія вядомыя ў Расеі людзі, як палітык Іван Рыбкін, пісьменьнік Анатоль Прыстаўкін.*

*Некалі тое самае пісаў Леў Талстой у аповесьці «Хаджы-Мурат». Разьдзел XVII. Расейскія войскі наведваюць чачэнскі аўл. Іхныя высакародныя паводзіны робяць на жыхароў глыбокае ўражаньне. «Пачуцьцё, якое мелі ўсе чачэнцы, і малыя, і старыя, было мацнейшым за нянавісьць. Гэта была не нянавісьць, а непрызнаньне гэтых расейскіх сабак людзьмі і такія пагарда, агіда, гідлівасьць і нейразуменьне перад недарэчнай жорсткасьцю гэтых істотаў, што жаданьне нішчыць іх, як корць вынішчэньня шчуроў, ядавітых павукоў і ваўкоў, было такім сама натуральным пачуцьцём, як пачуцьцё самазахаваньня».*

*Мо каму гэты ўрывак і не спадабаецца, што паробіш. Ленін казаў, што Талстой — гэта люстэрка. А на люстэрка няма чаго наракаць, калі нос крывы.*

**Аляксандар Мірскі, Барысаў**

## Два бакі

*О Беларусь, мая калыска,*
*Жыцьцё маё, прытулак мой!*
*З гарачаю любоўю нізка*
*Схіляюся перад табой.*

*Такі верш Пятра Глебкі можна прачытаць на рэклямным шчыце, што месьціцца ля станцыі мэтро «Акадэмія Навук». А з другога боку шчыта — віншаваньні з «Днём перамогі» на тле расейскага трыкалёру.*

*Адцураліся сваёй калыскі, дык скора паспытаем расейскай — няўтульнай, мулкай, сьцюдзёнай...*

**Вячка Васілёнак, Менск**

## У Наваполацку зьявіцца сьмецьцезавод

У Наваполацку праблему адкідаў пляную́ць вырашыць з дапамогай новага прадпрыемства, што мусіць зьявіцца неўзабаве: у Нафтаградзе пабудуюць сьмецьцеперапрацоўчы завод.

Сёлета мяркуюць скончыць падрыхтоўку праекту, а з наступнага году за справу возьмуцца будаўнікі. Мэр Наваполацку Аляксандар Камароў заявіў, што ўжо знайшлася фірма зь Нямеччыны, што згадзілася крэдытаваць будоўлю. Крэдыт гэны немцы даюць на 15 гадоў пад малыя працэнты. Завод будзе абслугоўваць Полацак з Наваполацкам ды ўвесь раён.

## Тры гады турмы за жарцік

У Наваполацку днямі засудзілі «тэлефоннага тэрарыста» — вучня сёмае клясы СШ №7. Раніцай 23 сакавіка ў 9.45 невядомы патэлефанаваў у прыёмную наваполацкае СШ №9 і паведаміў, што ў будынку — бомба. Сакратарка школы скеміла, што голас быў як падлетка 13—14 гадоў.

Тэрмінова прыбыла міліцыя, пажарныя, брыгада «Хуткай дапамогі», сапёрна-піратэхнічная група з вайсковай часткі з Полацку. Усіх са школы (каля 700 чалавек) эвакуявалі, будынак ачапілі. Але выбуховых прыладаў у школе, як заўжды, не апынулася. Неўзабаве міліцэйскія сьледчыя «вылічылі» самога жартаўніка.

14-гадовы хлапчук, нагледзеўшыся тэлевізіі, вырашыў праверыць, ці апэратыўна спрацуюць экстраныя службы. Патэлефанаваў у суседнюю школу (іх падзяляе якіх мэтраў 100) і з задавальненьнем назіраў, як завіхаюцца сапёры.

Айчыннае правасудзьдзе яго засудзіла не шкадуючы, роўна як Чыгіра: тры гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на два гады. Дый рахункі ад гарадзкіх службаў яго́ным бацькам прыйдзецца аплаціць.

**Андрэй Аляксандраў, Наваполацак**

## Садкі зачыняюцца

Магілёўскі гігант індустрыі, аб'яднаньне «Хімвалакно», зачыніла 7 дзіцячых садкоў, у якія хадзіла каля 3000 дзяцей. Дырэкцыя тлумачыць свае дзеяньні нястачай грошай. Неаплочаныя рахункі па ўтрыманьні садкоў складаюць пад 150 мільёнаў рублёў. «Хімвалакно», на якім працуе 20000 чалавек, і самое не піруе.

## Сьмерць на вынас

Чэрыкаўскія ўлады дазволілі разьбіраць і выкарыстоўваць па новай маёмасьць, што яшчэ засталася некранутая ў забруджанай радыяцыяй зоне. 10 гадоў тут трымалі адмысловыя атрады аховы, дасылалі спэцыялістаў, каб паступова і бяз шкоды наваколлю ўтылізаваць брудную маёмасьць. А цяпер во як. І пацякла радыяцыя з зоны...

## «Зэніт» усё бунтуе

Яшчэ адзін дырэктар магілёўскага заводу «Зэніт» падтрымаў традыцыю, паводле якой кожны зь іх праз год працы сыходзіць у адстаўку. Гэта ўжо чацьверты адстаўны кіраўнік за апошнія 5 гадоў. Кожны раз гэта зьвязана зь незадаволенасьцю працоўных як станам прадпрыемства, так і мэтадамі кіраваньня: на заводзе дзейнічае моцная суполка Свабоднага прафсаюзу. Кожны новы дырэктар, прыходзячы на працу, пачынаў з барацьбы з прафсаюзам, але рабочыя лідэры вельмі хутка знаходзілі шляхі законнага супраціву. Колішняе абароннае прадпрыемства жыве ня лепшыя часы. На «Зэніце» з сакавіка людзі чакаюць заробку.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## Рэгіёны хочуць большага ўдзелу

18—19 траўня ў Горадні адбылася нарада прадстаўнікоў рэгіянальных партыйных, грамадзкіх і прафсаюзных арганізацыяў дэмакратычнага характару. Зь Віцебску прыехалі Язэп Навумчык і Вадзім Баршчэўскі, з Гомеля — Віктар Карніенка, Алег Грамыка, з Магілёва — Віталь Васількоў і Анатоль Фёдараў; зь Ліды — Станіслаў Суднік, з Барысава — Анатоль Аскерка, з Маладэчна — Алесь Капуцкі, з Салігорску — Мікалай Дзялендзік, са Слуцку — Аляксандар Катляроў. А сустракалі ўсіх Сямён Домаш, Сяргей Мальчык, Аляксандар Мілінкевіч.

У выніку перамоваў утварылі Каардынацыйную Раду «Рэгіянальная Беларусь», каардынатарам якой абралі Сямёна Домаша, і Каардынацыйнай радзе Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў Беларусі прапанавалі ўключыць у свой склад кіраўніка «Рэгіянальнай Беларусі». Хочуць дабіцца, каб думкі рэгіёнаў пыталіся нарэшце ўсяго, што рыхтуюць дэмакратычныя сілы ў сталіцы.

**Антон Лабовіч, Горадня**

## Хлеб падаражэў

На 30% падаражэў хлеб звычайных гатункаў. Бо дорага абыходзіцца купляць на яго збожжа за мяжой, тлумачаць ува ўрадзе.

**В.Т.**




водгукі

## Заўвага Белага Фронту

У мінулым нумары «НН» мы надрукавалі ліст нашага чытача зь Берасьця сп.Тылера пра берасьцейскую арганізацыю skinhead-аў «Белы Фронт». У адказ нам прыйшоў факс, дзе, між іншым, гаворыцца:

*«БФ ніколі ня быў структурнай адзінкай РНЕ, не выступаў зь ім адзіным фронтам. БФ не падзяляе ідэалёгіі РНЕ.*

*БФ ніколі не вытлумачваў свайго зьяўленьня лёзунгам* White Pride. *Такога лёзунгу мы ўвогуле не выкарыстоўваем.*

*БФ паважліва ставіцца да беларускай мовы і прапагандуе яе.*

*БФ ніколі не спачуваў расейскім войскам у Чачэніі. Выказваньні асобных сяброў арганізацыі не зьяўляюцца афіцыйнай пазыцыяй арганізацыі.*

*БФ ніколі не супрацьстаяла «Краю». Паміж гэтымі арганізацыямі наладжанае ўзаемадзеяньне.*

*Зьяўленьне ліста сп.Тылера — спроба ўбіць клін паміж СПА «Край» і Белым Фронтам».*

Сканчаецца факс недвухсэнсоўным дэвізам:

*«Жыве Беларусь!»*

## ПАМЕРЛА СОФ'Я РОХКІНД

11 траўня на 97-м годзе пайшла з жыцьця лінгвістка Соф'я (або Шпрынца) Рохкінд, ці не найстарэйшая з навукоўцаў Беларусі. Нарадзілася яна ў Талачыне ў адукаванай габрэйскай сям'і. У 1920-х вучылася ўва ўнівэрсытэтах Расеі, потым працавала ў габрэйскіх школах Беларусі, скончыла асьпірантуру ў беларускай Акадэміі Навук. Спэцыялізавалася ў амэрыканскай літаратуры, працавала і ў галіне беларускага мовазнаўства. Слаўнай ува ўсім сьвеце яе зрабіў першы й адзіны ідыш-расейскі слоўнік, які яна склала напярэдадні вайны з Г.Шклярам (выйшаў у Менску ў 1940 г.). Спн.Соф'я была добрым чалавекам, дапамагала ўсім, каму магла, мела шмат вучняў. Пачэсна прайшла свой доўгі жыцьцёвы шлях, ня здрадзіўшы сябрам у гады сталінскага тэрору. Сама зьдзіўлялася, як ацалела. У апошнія гады амаль што страціла зрок ды слых, аднак перакладала вершы, напісала цікавыя ўспаміны. Ахвотна распавядала пра былую эпоху, бо захоўвала памяць пра ўсё. Будзьма ж і мы памятаць, што быў такі чалавек, Соф'я Рохкінд.

*В.Р.*

пазытывы

# НОВЫЯ ПЛЯНЫ ЎРАДУ

Два гады вучыцца чалавек размаўляць, а астатняе жыцьцё — язык за зубамі трымаць. Бо надта небясьпечная рэч — слова. І складаная. Розныя спэцыялісты тымі складанасьцямі займаюцца.

Перакладчыкі імкнуцца захаваць сэнс і мілагучнасьць іншаземнай мовы. Крыптографы — пазбавіць кадаваны тэкст усялякай структуры, каб вораг не расшыфраваў. Стэнаграфісты — захаваць дзеля вечнасьці афіцыйныя словы. А тэлеграфісты і праграмісты, карэктары і важбіткі...

Але ўсё гэта дробязь у параўнаньні з Правадырамі Людзей. Словам іхным наканавана быць лёсавызначальнымі. Праўда, уцяміць, пра што ён вядзе гаворку, нават ня кожны прамоўца сам можа, бо рэдка хто з начальнікаў сам піша. Што там ужо казаць пра слухачоў!

Асабліва цьмяная сытуацыя склалася ў гледачоў і слухачоў, якія даведаліся амаль адначасова пра існаваньне новых і аднолькава заблытаных урадавых праграмаў Беларусі і Расеі.

Раім чытачом «НН» правесьці экспэрымэнт. Выпішыце з усіх паведамленьняў у газэтах, часопісах і Інтэрнэце, дзе згадваюцца абедзьве праграмы, у два, адпаведна, слупочкі ўсе дзеясловы. Палічыце паасобку, колькі сярод іх аднолькавых. Выберыце тыя, што трапляюцца найчасьцей і параўнайце вынікі. Павінна атрымацца прыкладна наступнае:

| *Беларускі ўрад будзе:* | *Расейскі ўрад будзе:* |
|---|---|
| 1.ажыцьцяўляць | 1.прымаць |
| 2.скарачаць | 2.вырашаць |
| 3.павялічваць | 3.праводзіць |
| 4.спрыяць | 4.стабілізаваць |
| 5.ствараць | 5.ажыцьцяўляць |
| 6.распрацоўваць | 6.зьмяняць |
| 7.забясьпечваць | 7.спрыяць |
| 8.абмяжоўваць | 8.уплываць |
| 9.выкарыстоўваць | 9.разумець |
| 10.падтрымліваць | 10.разьвіваць |

Калі маскоўскі ўрад зьбіраецца нешта «прымаць» і «вырашаць», пэўна нейкія пытаньні, дык наш і не імкнецца далей «ажыцьцяўленьня» нечых рашэньняў. Калі маскоўскі ўрад, прыдумаўшы нешта, мусіць яго «праводзіць» у жыцьцё, дык нашыя стратэгічныя ідэі зводзяцца да «скарачэньня» і «павелічэньня».

Гэткі лінгвапсыхалягічны стан беларускага ўраду выціскае са сьпісу гітоў ягонага лексыкону гэткае слоўца, як «уплываць». Адсутнасьць палітычнага ўплыву замяняецца абавязкамі «распрацоўваць», «ствараць», «выкарыстоўваць», нібыта гэта ня ўрад, а НДІ. Каб не заядаў комплекс непаўнавартасьці, нашаму ўраду дараванае права падначаленых «абмяжоўваць», а самых жывучых з папярэдне абмежаваных — «падтрымліваць».

Відавочна таксама, што «зьмяняць» наш урад нічога не зьбіраецца, гэтаксама як і «разумець». Балазе наша нацыя даўно знайшла чалавека, які ўсё, заўсёды і лепш за ўсіх... Таму на халеру нам маскоўскія мудрасьці...

Такім чынам, кароткі статыстычны разгляд новых плянаў айчыннага ўраду яскрава сьведчыць, што кожнаму грамадзяніну трэба цяжка працаваць, своечасова ўносіць угнаеньні пад бульбу і гародніну, дбайна ставіцца да нарыхтоўкі кармоў для свойскай жывёлы, прыглядаць сабе добрага коніка. А калі яшчэ навучыцца ў якога дзядка плесьці лапці ды рабіць саху, наагул у будучыні, акрамя радасьці, нічога яго не чакае.

**Міхал Залескі**

# Міхаіл Чыгір: ЛЕПШ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ З ЛУКАШЭНКАМ, ЧЫМ РЫНАК У СКЛАДЗЕ РАСЕІ



**«НН»: Ёсьць думка, што пры сёньняшніх тэмпах русіфікацыі наша незалежнасьць трымаецца толькі на нелегітымнасьці Лукашэнкі: Расея ня хоча псаваць уласны вобраз і легітымнасьць аб'яднаньнем. Беларусь жа і палітычна, і эканамічна, і маральна гатовая стаць часткай Расейскай Фэдэрацыі. І таму, як толькі ў Беларусі зьявіцца любая, толькі што легітымная ўлада, Беларусь назаўтра ж станецца часткай Расеі...**

Міхаіл Чыгір: Апошнія апытаньні паказваюць, што большасьць насельніцтва не жадае аб'яднаньня. Супрацоўніцтва хочуць, а аб'яднаньня — не. Працэс інтэграцыі, думаю, збавіць абароты, бо Лукашэнка марыў, што аб'яднаньне дасьць яму падставу балятавацца на прэзыдэнта Расеі. Гэтага ня здарылася, да ўлады прыйшоў Пуцін. Лукашэнка ня будзе паскараць гэтага працэсу. Дый Пуцін разумее, што аб'яднаньне з краінай зь нелегітымным прэзыдэнтам і парлямэнтам немагчымае. Міжнародная супольнасьць адрэагавала б на гэткае адэкватна. Размовы пра інтэграцыю будуць весьціся й далей, будзе нешта рабіцца ў эканамічнай сфэры, у вайсковай, магчыма, нешта ў палітычнай, але што датычыць аб'яднаньня дзяржаваў, дык, па-першае, на гэтае ня пойдзе Лукашэнка, а, па-другое, Расея разумее, што міжнародная супольнасьць не падтрымае працэсу зьліцьця дзяржаваў. Я хацеў бы нагадаць таксама рашэньне ніжэйшай палаты Кангрэсу ЗША: яны рэзка выказаліся наконт Беларусі і падкрэсьлілі ўпершыню, што рэжым у Беларусі трымаецца сілай падаўленьня на расейскім фінансаваньні. ЗША папярэджваюць Расею: вы шукаеце крэдыты на Захадзе, але пры гэтым — даклад называе канкрэтныя лічбы — ад паўтара да двух мільярдаў даляраў штогод даяце ў Беларусь. Гэта новая зьява ў адносінах ЗША і Беларусі, ЗША і Расеі. Гэта будзе стрымліваць нейкія крокі па аб'яднаньні. Ніхто ня будзе супраць эканамічнага супрацоўніцтва, яно будзе на карысьць Беларусі й Расеі, безь яго нельга, але аб'яднаньне дзьвюх дзяржаваў немагчымае. Нават калі б гэта адбылося, ёсьць людзі, якія выказаліся б наконт гэтага вельмі рэзка. Калі б — што немагчыма — былі падпісаныя дакумэнты пра зьліцьцё дзяржаваў, гэта справакавала б масавыя выступленьні. Моцным стрымліваючым фактарам зьяўляецца й Чачэнія.

**«НН»: Гістарычная мяжа, пасьля якой страта незалежнасьці немагчымая, пяройдзена?**

М.Ч.: Такі непрыемны шанец ёсьць, але, думаю, гэтага не адбудзецца. На такое Лукашэнку можа падштурхнуць толькі вельмі цяжкае эканамічнае становішча.

**«НН»: Што лепш: незалежнасьць з Лукашэнкам ці дэмакратызацыя і рынкавыя рэформы цаной страты незалежнасьці?**

М.Ч.: Незалежнасьць — гэта самае важнае. Аб'яднацца проста, разьяднацца і адбудаваць дзяржаву будзе цяжэй.

**«НН»: Вы асабіста гатовыя падтрымаць Лукашэнку, калі ён зьменіць палітычны і эканамічны курс?**

М.Ч.: Я вам скажу больш. Пазатым летам людзі Лукашэнкі прапанавалі мне вярнуцца і працаваць ува ўрадзе. Каб я бачыў, што ён зьмяняе курс, што ён на іншай аснове будуе адносіны з Захадам і міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, што эканоміку ён пачынае разьвіваць у іншым кірунку, што будуе дзяржаву на базе прыватнай уласнасьці, я даў бы згоду працаваць, але пакуль я нічога гэтага ня бачу. Было б вельмі добра, каб ён памяняў свой курс, стаўленьне да яго зьмянілася б, але я ня веру ў ягоную здольнасьць памяняць кірунак разьвіцьця. Перад маёй адстаўкай я меў многа размоваў з Лукашэнкам пра шляхі разьвіцьця дзяржаваў, я пераконваў яго ў тым, што іншага шляху, апроч таго, якім ідуць іншыя краіны рэгіёну, няма, але *я* так і ня змог яго пераканаць. Чаму ён ня здольны памяняць кірунак разьвіцьця, ня знаю. Малады, здавалася б, яшчэ чалавек, мо й занадта малады для прэзыдэнта, але выпраўляць свае памылкі няздольны. Гэта вельмі дрэнна.

**«НН»: Што, на Вашу думку, мусілі б сёньня рабіць розныя палітычныя сілы на карысьць краіны?**

М.Ч.: Добра, што беларускія палітычныя сілы канчаткова аб'ядналіся і дасягнулі адзінай плятформы. Аб'яднаная апазыцыя ў пэрспэктыве можа рабіць немалы ўплыў на разьвіцьцё палітычнай сытуацыі. Пакуль палітычныя сілы могуць зрабіць няшмат, бо ініцыятыва ў сёньняшніх умовах у руках уладаў, якія адны маюць усе рычагі. Найважнейшае — каб увосені адбыліся адкрытыя справядлівыя дэмакратычныя выбары. Пасьля такіх выбараў не засталося б ніякіх закрытых пытаньняў. Але дэмакратычнасьць выбараў ніяк не залежыць ад апазыцыі, адно ад уладаў. Захад падштурхоўвае ўлады, каб яны пайшлі на чэсныя перамовы і на чэсныя выбары, але пакуль што, скажам шчыра, Лукашэнка на гэта ня йдзе і ёсьць небясьпека, што й ня пойдзе. У такім разе становішча, якое й так крытычнае ў краіне, яшчэ пагоршыцца, бо хто б што ні казаў, безь міжнароднай дапамогі аднавіць эканоміку, паставіць яе на рэйкі ўстойлівага разьвіцьця немагчыма. Як ня будзе чэсных выбараў, інвэстыцыі ў краіну ня пойдуць. Значыць, некалі надыдзе дзень, калі на вуліцу выйдуць сотні тысячаў людзей, і тады магчымы будзе й румынскі варыянт. Пажадана, каб зьмена ўнутранай і замежнай палітыкі адбылася мірным шляхам. Калі ж такой зьмены не адбудзецца, дык магчымыя вельмі непажаданыя варыянты разьвіцьця ў краіне.

**«НН»: А чаго Вы чакаеце ад Шарэцкага, чаго — ад Пазьняка?**

М.Ч.: Пазьняк, здаецца, ніякага ўплыву на становішча ня мае. Аказаўся ізаляваны, падтрымкі ў яго няма, якой была. Калісьці ён зрабіў многае для адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці, але пасьля страціў свой палітычны ўплыў. Што датычыць Шарэцкага, то, калі не адбудзецца дэмакратычных выбараў, міжнародная супольнасьць падтрымае Вярхоўны Савет 13 скліканьня, і тады палітычны ўплыў Шарэцкага рэзка ўзрасьце. Цяпер усе чакаюць дэмакратычных выбараў. Калі іх не адбудзецца, усе будуць рабіць стаўку на Вярхоўны Савет 13 скліканьня — як запісана ў праекце рэзалюцыі Сэнату ЗША, — і тады ён зможа вельмі актыўна ўплываць на сытуацыю ў Беларусі.

**«НН»: І што, на Вярхоўны Савет сапраўды можна ўскладаць спадзяваньні?**

М.Ч.: Калі выбары ня будуць прызнаныя і Захад падтрымае Вярхоўны Савет 13 скліканьня, і пойдзе адкрытая падтрымка і фінансаваньне, ён набудзе новую сілу.

**«НН»: А беларуская эміграцыя?**

М.Ч.: Эміграцыя актыўнага ўплыву аказаць ня зможа.

**«НН»: Вяртаньне ў Беларусь Івонкі Сурвіллы магло б добра паўплываць на сытуацыю ў краіне?**

М.Ч.: У сёньняшняй сытуацыі яна вярнуцца сюды ня можа. Прыехаць у краіну з таталітарным рэжымам — вялікі шанец аказацца там, дзе, хацелася б, каб людзі не знаходзіліся. Падзеі могуць разьвівацца па-рознаму, але ў сёньняшняй сытуацыі, лічу, яна не павінна тут зьяўляцца, бо гэта небясьпечна для жыцьця.

**«НН»: Які б сцэнар на восень Вы прапанавалі б апазыцыі?**

М.Ч.: Калі ня ўдасца супольнымі намаганьнямі зрабіць выбары дэмакратычнымі, дык апазыцыя мусіць заклікаць Захад — і гэта тады адбудзецца аўтаматычна — каб вынікі парлямэнцкіх выбараў не былі прызнаныя міжнародным супольніцтвам.

**«НН»: Лібэральная прэса выстаўляе Ярмошына й Латыпава падсподнымі апанэнтамі Лукашэнкі, прыхільнікамі палітычнай і эканамічнай лібэралізацыі. Што Вы думаеце на гэты конт?**

М.Ч.: Якія яны там апанэнты?! Яны нідзе нічога ня выказаліся. Што яны там недзе кухоннай палітыкай займаюцца... Ня можаш уплываць на палітыку, зь якой ты ня згодны, пакладзі партфэль і сыдзі ў адстаўку. Ніякай надзеі на тое, што гэтыя людзі паўплываюць на Лукашэнку, у мяне няма.

**«НН»: Што стала прычынаю адноснай няўдачы леташніх падпольных прэзыдэнцкіх выбараў? Непасьлядоўнасьць Пазьняка? Пачатак непапулярнага ў Беларусі ўмяшаньня NATO ў Касаве? Умелае запалохваньне з боку ўладаў, якому спадарожнічаў Ваш арышт і зьнікненьне Захаранкі? Агульная слабасьць незалежнага беларускага грамадзтва? Тое, што на волі не засталося кандыдата, які б езьдзіў ад заводу да заводу, ад вёскі да вёскі?**

М.Ч.: Усё разам, але найперш дзеяньні ўладаў. Калі пачаліся беспрэцэдэнтныя рэпрэсіі ўладаў, людзі спалохаліся. Па-другое, мы не атрымалі на выбары тых фінансавых сродкаў, на якія разьлічвалі. Можа, мы б атрымалі больш сродкаў, каб я застаўся на свабодзе. Дый грамадзтва летась яшчэ не было зусім гатовае да такой акцыі. Ужо сёлета гатоўнасьць грамадзтва вышэйшая. Пасьля такіх дзеяньняў уладаў нам трэ было спыніць выбары і прызнаць, што далей працягваць выбары мы ня можам, а тое, што камісія працягвала працаваць са статыстыкай, лічу, што гэта была памылка.

**«НН»: Гэта была памылка Ганчара?**

М.Ч.: Думаю, што Ганчар гэта ўзгадняў зь іншымі, найперш — з Шарэцкім. Я сам быў у турме.

Але ў цэлым выбары былі вельмі пазытыўным гістарычным актам. Пасьля іх палітычная актыўнасьць у краіне рэзка ўзрасла і апазыцыя зразумела, што трэба аб'ядноўвацца.

**«НН»: Ці вядома Вам пра зьнікненьне Захаранкі і Ганчара нешта такое, чаго б ня ведалі іншыя?**

М.Ч.: Часта спрабую атрымаць нейкую інфармацыю. Што тычыцца Ганчара, дык нейкая надзея ёсьць, нейкія людзі кажуць, што ён яшчэ жывы. Што да Захаранкі, дык нават такіх слабых надзеяў ня маю — нічога ня ведаю.

**«НН»: А Віньнікава?**

М.Ч.: Зьехаць сама сабою яна не магла. Зьехала яна, бо гэта было выгадна і ўладам, і ёй. Уладам, бо яны ня мелі доказаў яе вінаватасьці, але і проста адпусьціць не маглі, так доўга пратрымаўшы яе ў турме.

**«НН»: А на чые грошы яна жыве за мяжой?**

М.Ч.: На чые, цяжка адказаць. На жыцьцё ёй хопіць... Яе могуць падтрымаць нейкія другія ўлады. А мо зьберажэньні, мо спонсары нейкія ёсьць...

**«НН»: Вы, магчыма, ужо рыхтаваліся да турмы...**

М.Ч.: Ну, я гатовы, што тут рыхтавацца? Такая справа, што з сабой самае неабходнае ўзяў, і гатовы да турмы. Ніводзін сьведка ня даў паказаньняў супраць мяне. Ніводзін дакумэнт ня сьведчыць супраць мяне. Збоку мне падказвалі, што я павінен зьехаць — я гэтага рабіць ня буду. Я маральна гатовы да самага дурнога рашэньня.

**«НН»: Шкадаваць, што вярнуліся ў Беларусь, не шкадуеце?**

М.Ч.: Што там шкадаваць? Рашэньне ж прынятае. Некалі ж і ў Беларусі павінна стаць сьветла! Вярнуўся, бо зразумеў, што мяне многія палітычныя партыі і ўплывовыя асобы падтрымліваюць. У любым разе час працуе на нас, а не на рэжым.

**«НН»: Цяпер, калі Вы трохі-трохі пазьбеглі турмы, з кім з асобаў беларускай гісторыі Вы хацелі б, каб вас параўноўвалі?**

М.Ч.: Тую гісторыю, якую я хацеў бы ведаць і прачытаць, у нас ня вельмі й прачытаеш, ня проста пазнаць. Цяжка таму казаць пра параўнаньні. Ведаю толькі, што ў нас усіх, хто быў актыўны, вынішчалі. Зьнішчалі ўсіх сьвядомых. Такая наша гісторыя.

Гутарыў Андрэй Дынько

# ТЭАТРАЛЬНАЯ ВЯСНА

Фэстываль «Менская вясна-2000» — гэта міжнародная сустрэча артыстаў і акцыя салідарнасьці творцаў некамэрцыйнага мастацтва зь беларускімі калегамі, адрэзанымі ад культурнага жыцьця Эўропы.

У тэатры «Вольная сцэна» прайшоў паказ відэафільмаў пра найноўшыя эксպэрымэнты ў тэатральным мастацтве Захаду (увосені да нас мае завітаць знакаміты амэрыканскі *Living Theater*), а таксама пра маляўнічыя вулічныя акцыі апазыцыйных рухаў у Польшчы і Югаславіі. Кіраўнік тэатру «Акадэмія руху» Войцех Крукоўскі падзяліўся ўспамінамі пра змаганьне польскіх акцёраў з камуністычнай дыктатурай. Тэатар *Cogitatur* паказаў мюзыкал. Палякі ж зь цікавасьцю паглядзелі спэктакаль Гарадзенскага тэатру лялек «Тутэйшыя» (яго двойчы запрашалі на фэстываль у Торуні, і двойчы ўлады не давалі дазволу на выезд). Бадай, лепшы беларускі авангардовы спэктакаль апошняга часу «Елка Ў» паказаў менскі тэатар «Жэст».

Гарвыканкам забараніў беларускім і польскім мастакам-пэрфомэрам выступіць на пляцоўцы перад тэатрам «Дзе-Я»: мастацкія акцыі ўлады прыраўналі да несанкцыянаваных мітынгаў. Міліцыя нават затрымала некалькі журналістаў, якія здымалі разгон гэтых несанкцыянаваных вулічных спэктакляў (частку зь іх потым паказалі ў ТЮГу). Улады забаранілі нават правядзіць прэс-канфэрэнцыю па выніках фэстывалю і — зусім ужо сьмех — прыгразілі зачыніць клюб «Рэактар», дзе выступалі рок-гурты (адзін з польскіх гуртоў дзеля эпатажу завецца «Pidżama Porno», а ліцэнзіі на мужчынскі стрыптыз у клюбу, маўляў, няма). Адмарозкі ня любяць вясны.

**Юрась Барысевіч**

## Ня згіне плён цяжкіх пакут...

16 траўня талачынскае раённае кіраўніцтва загадала тэрмінова выдаліць карціны Алеся Пушкіна з тэрыторыі раёну, заявіўшы, што гэтае мастацтва занадта спэцыфічна ўплывае на нацыянальную сьвядомасьць насельніцтва. 1 траўня ў Коханаве адкрылі экспазыцыю твораў Пушкіна ды мясцовага скульптара Юр'я Палякова. Сюды зьехалася патрыятычна настроеная моладзь з усяго навакольля — і ўжо праз 3 дні паступіў загад зачыніць выставу. 8 траўня сустрэца з коханаўцамі прыяжджаў сам Алесь Пушкін дый шчэ паказаў пэрфоманс «Першы беларускі партызан», 14 траўня ў цэнтры Коханава зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг, а 15 траўня тамтэйшая суполка ТБМ зладзіла пікет у абарону мовы... Зьвязаўшы гэтыя падзеі з узьдзеяньнем «палітычна небясьпечнага» мастацтва, талачынскія раённыя ўлады пастанавілі пазбыцца яго ўвогуле, пагражаючы выкінуць карціны Алеся Пушкіна, якія часова захоўваліся ў пасялковым Доме культуры, проста на вуліцу. Юры Палякоў мусіў неадкладна забраць свае творы дахаты. А карціны Пушкіна часова прытуліў у сябе адзін добры чалавек. Коханаўскае рэгіянальнае аб'яднаньне моладзі (КРАМ) вырашыла працягваць свой праект. Толькі выстава накіруецца зараз ужо не ў Талачын, як плянавалася, а ў якое іншае, больш прыдатнае для культуры месца.

**А.Т., Віцебск**

## Канцэрт у Горках

У Горках у сельгасакадэміі прайшоў цудоўны канцэрт, наладжаны ТБМ і студыяй «Жывы гук». Выступілі фольк-гурт «Верасень», хрысьціянская музычная група «Ласка Божая», дуэт клясычнай музыкі, мясцовы рок-гурт «Калі мерзьнеш». Участковы міліцыянт ушчуваў, што арганізатары не папрасілі аховы, але й сам з задавальненьнем слухаў і танчыў разам са студэнтамі.

**Сямён Глазштэйн, Магілёў**

дзе варта быць

## Магілёў

23 траўня ў аўторак а 17-й у Палацы піянэраў (галоўны корпус, другі паверх) адбудзецца сустрэча з аўтарам кнігі «10 вякоў беларускай гісторыі» Ўладзімерам Арлобым.

## Горадня

У гарадзенскім Новым Замку адкрылася трэцяя міжнародная мінэралягічная выстава-кірмаш «Сьвет самацьветаў». Удзел у ёй бяруць майстры зь Беларусі, Расеі, Украіны, Конга-Кіншаса. Вырабы з каштоўных камянёў, бурштыну, косьці тут можна адразу і набыць.

## Jazz Made in Belarus

24 траўня ў канцэртнай залі Філярмоніі гучыць аўтэнтычны беларускі джаз – грае гурт *Apple Tea*. Квіткі ад 2000 да 3500 рублёў.

## П'еса Яна Паўла II

Папа Рымскі — ня толькі кіраўнік Касьцёлу, але яшчэ й драматург. 23 траўня Польскі Інстытут у Менску з нагоды 80-гадовага юбілею Папы Рымскага прадстаўляе прэм'еру спэктаклю па матывах п'есы Караля Вайтылы «Перад крамай ювэліра». Сам аўтар лічыць, што гэтая п'еса — разважа пра таямніцу шлюбу, які часам пераходзіць у драму. Тэатральныя эфэкты адмыслова зьведзеныя да мінімуму. Пастаноўку зьдзейсьнілі рэжысэр Ігар Блінкоў ды мастак Вікторыя Сахончык. Пачатак а 19-й. На тэатральнай сцэне Чырвонага касьцёла. Уваход вольны.



## Кангрэс беларусістаў

22 траўня пачынае нарэшце сваю працу Сусьветны кангрэс беларусістаў. Ягоныя пасяджэньні можна наведаць у аўторак зь 9-й да 14.30 і зь 15-й да 18.30 і ў сераду зь 15-й да 18.30 у залі аддзяленьня гуманітарных навук і мастацтваў Акадэміі Навук Беларусі (Сурганава 1, корпус 2).

## Лялькі ў Купалаўскім

На гэтым тыдні ў Менску гастралюе Беларускі тэатар «Лялька» зь Віцебску. У сталіцу тэатар завітаў з нагоды свайго 15-годзьдзя, а таксама 300-годзьдзя першай прафэсійнай лялечнай трупы ў Віцебску. Квіток каштуе вельмі танна — 200 рублёў. Спэктаклі йдуць у памяшканьні Купалаўскага. Спэктаклі для дарослых (пачатак а 19-й): 22 ды 27 траўня да 70-годзьдзя з дня нараджэньня Караткевіча — філязофская прыпавесьць з элемэнтамі балагану «Ладзьдзя роспачы»; 24-га — «Загубленая душа, або пакаранне грэшніка» — дыдактычная драма на дзьве дзеі паводле Яна Баршчэўскага. Спэктаклі для дзяцей (пачатак аб 11-й ды 13-й): 23 траўня — Міхаіл Супонін «Чароўная зброя Кэндзо», казка на дзьве дзеі; 25-га — Васіль Ліванаў, Юры Энцін «Брэмэнскія музыкі», музычная казка на дзьве дзеі; 26-га — Оскар Уайльд «Хлопчык-зорка», казка на дзьве дзеі.

## Гедымін

24 траўня ваярска-гістарычны клюб «Жалезны воўк» ды майстэрня «Крэда» (Наваполацак) ладзяць у актавай залі Беларускага пэдунівэрсытэту спэктакаль «Гедымін». Пачатак а 18-й.

## Крукоўскі

Ці адпавядае нашае грамадзтва клясычнаму ідэалу? Мікалай Крукоўскі 23 траўня чытае ў Беларускім калегіюме (бібліятэка імя Янкі Купалы) публічную лекцыю «Клясычны ідэал і стан беларускага грамадзтва». Пачатак а 18.30.

## NATO

Франка-беларуская заля інфармацыі бібліятэкі імя Пушкіна запрашае на лекцыю прафэсара Жана-Крыстафэра Рамэра з Страсбурскага інстытуту палітычных навук на тэму «Пашырэньне NATO». Адбудзецца лекцыя 25 траўня а 19-й у канфэрэнц-залі бібліятэкі (другі паверх). Чытае лектар па-француску, пераклад будзе на расейскую.

## Замкі Беларусі

Беларуская Асацыяцыя клюбаў ЮНЭСКА распачала праграму «Замкі Беларусі», у межах якой намераная праводзіць міжнародныя валанцёрскія летнікі, пад час якіх моладзь зможа прыняць удзел у работах па рэстаўрацыі беларускіх замкаў. Сёлета — у Міры і Навагрудку. Заяўкі можна падаваць да 10 чэрвеня (belau@user.unibel.by).

## Агнём і мячом

22 траўня Польскі кінаклюб паказвае фільм «Агнём і мячом» (1999 год, рэжысэр Ежы Гофман) — экранізацыю клясычнай эпапеі Генрыка Сянкевіча, самы шыкоўны ды дарагі польскі фільм апошніх гадоў. На экране — інтрыгі ды бойкі, любоўныя трохкутнікі ды палітычныя змовы XVII ст. Пачатак а 19-й у памяшканьні філфакультэту БДУ (аўд.113).

## Чыквін

У менскім Доме літаратара з 22 па 24 траўня пройдзе вечарына беластоцкага паэта Яна Чыквіна, прысьвечаная 60-годзьдзю аўтара.



## Бэрнгард

23 траўня а 17-й у Музэі Беларускай акадэміі мастацтваў (пр.Скарыны, 81а, у двары) адчыняецца выстава нямецкага мастака Люцыяна Бэрнгарда.

**Алесь Кудрыцкі**









Для пакаленьня нашых бацькоў польскі друк быў акном у інтэлектуальны дабрабыт і свабоду. Калі савецкія кнігалюбы, здаўшы дзяржаве па 10 ц макулятуры з гектару, атрымоўвалі Пікуля і Друона, людзі спрытнейшыя ды разумнейшыя папросту ішлі ў краму «Дружба» і замаўлялі там безьліч твораў напаўзабароненай у нас сусьветнай літаратуры ў польскім перакладзе і за сьмешныя цэны. У найгоршыя гады брэжнеўскага змроку можна было падпісацца на першаклясныя па тых часах штотыднёвікі *Polityka* і *Kultura* (праўда, варшаўскую, не парыскую), якія прыносілі ў дамы нашых бацькоў крышачку сьвятла.

Ужо потым, напярэдадні і пад час *перестройки*, улады паставілі на гэтыя выданьні такую цэну, што купляць іх нармалёваму чалавеку было немагчыма, і аматары вольнага духу цешыліся адно газэтай *Życie* Warszawy. Найцікавейшым у ёй быў аддзел прыватных аб'яваў, зь якога можна было даведацца, што нехта прадае бэтонамяшалку ці цырульню на 14 пасадачных месцаў. У тую эпоху савецкім людзям здавалася неверагодным, што прыватная асоба ў сацыялістычнай краіне можа валодаць гэткай маёмасьцю ці мець грошы на тое, каб яе набыць.

Прайшло шмат гадоў, і цяпер у госьці да менчукоў прыехалі тыя людзі, хто рабіў дзяржаўны штотыднёвік *Kultura* і стаяў ля калыскі дэмакратычнае польскае прэсы. Нашая сустрэча зь імі адбылася ў рамках беларуска-польскага сэмінару «Разьвіцьцё незалежнай прэсы ўва ўмовах сацыяльных, эканамічных і палітычных трансфармацыяў», што праходзіў у Менску 12–13 траўня. Сярод нашых гасьцёў пераважную колькасьць складалі журналісты *Gazety Wyborczej* – найпапулярнейшага штодзённага выданьня ў сучаснай Польшчы, якое паўстала ў выніку дамоўленасьцяў паміж уладай і апазыцыяй пад час славутага «Круглага стала» ў 1989 годзе.

*Gazeta Wyborcza* пачыналася з 8 старонак інфармацыі, з татальнай адсутнасьці грошай і ўласных сродкаў вытворчасьці. І памяшканьне, і друкарскія магутнасьці, і паперу трэ было пазычаць у дзяржавы, расплочваючыся за іх гатоўкаю. Што горш, «Салідарнасьць» па-ранейшаму лічыла *GW* сваім баявым лістком і дамагалася ад яе прапагандысцкіх паслугаў. Але ўсё вырашылі гіганцкія амэрыканскія інвэстыцыі ў газэту.

Цяпер у газэце болей за 100 старонак, і яна выходзіць у 19 рэгіянальных аддзяленьнях, якія прыстасоўваюць агульнанацыянальную форму да мясцовых патрэбаў і выпускаюць дадаткі зь лякальнай інфармацыяй. Яна мае наклад 500 000 асобнікаў і ў дзесяць разоў болей чытачоў. Бо той, хто купляе газэту ў панядзелак дзеля тэматычнай укладкі «Праца», наўрад ці будзе купляць яе ва ўторак дзеля «Бюро» і «Кампутару», а тыя, хто чытае газэту ва ўторак, ня будуць купляць яе ў сераду, калі гіт – гэта тэматычныя ўкладкі «Дом» і «Нерухомасьць». Так *Gazeta Wyborcza* сталася прыбытковым ка-

# ЗАМОРСКАЕ ТУРНЭ ВЯЧОРКІ

Старшыня БНФ Вінцук Вячорка з 14 па 19 траўня быў у Лёндане на запрашэньне Міністэрства замежных справаў Вялікай Брытаніі з афіцыйным візытам. Ён наведаў Палату грамадаў брытанскага парлямэнту, дзе меў спатканьні з усімі асноўнымі фракцыямі парлямэнту. Размова йшла пра пэрспэктывы дэмакратызацыі Беларусі, абарону нашай краіны ад замахаў на яе незалежнасьць з боку Расеі, а таксама стварэньне дэпутацкага клюбу Брытанія–Беларусь. Адбылася таксама гутарка з баранэсай Шатляндзкай, намесьніцай міністра замежных справаў. В.Вячорка наведаў некалькі аналітычных цэнтраў (сярод іх Каралеўскі інстытут міжнародных справаў і оксфардзкі *Christ Church College*). Асобным пунктам былі сустрэчы з кіраўнікамі міжнародных аддзелаў найбуйнейшых брытанскіх газэт *The Sunday Times*, *The Financial Times* і *The Guardian*. У Міжнароднай службе *BBC World Service* В.Вячорка сустрэўся з кіраўнікамі дэпартамэнтаў і нацыянальных службаў. Адной з істотных тэмаў размовы была магчымасьць адкрыцьця беларускай рэдакцыі *BBC*. На сустрэчы зь біскупам Портсмуцкім Крысьціянам Голісам, старшынём Камітэту эўрапейскіх справаў Канфэрэнцыі біскупаў Англіі і Ўэльсу В.Вячорка падкрэсьліў небясьпеку апошніх фактаў рэлігійнага перасьледу ў Беларусі. Кіраўнік БНФ сустрэўся таксама з а.Аляксандрам Надсанам і беларускім зямляцтвам.

Зь Лёндану старшыня БНФ накіраваўся зь візытам у Вашынгтон. Візыт прадоўжыцца да чэрвеня.

**Б.Т.**

# СЕЙБІТЫ МУТАНТАЎ

***Ці пагражаюць нашаму здароўю генэтычна зьмененыя прадукты?***

Пакуль мы змагаемся з халадамі ды сьпякотай, многія эўрапейскія фэрмэры ўжо пасьпяхова правялі сваю пасяўную. Але і ў іх ня ўсё гладка. У чацьвер выявілася, што сотні фэрмэраў памылкова засеялі генэтычна зьмененае зерне — такое, у якім прамысловым шляхам, з дапамогай геннай інжынэрыі, зьменены генэтычны код і спадчынныя якасьці. Гэтае збожжа трапіла ў зямлю на больш чым 500 брытанскіх фэрмах, на 500 гектарах у Швэцыі, 600 га ў Францыі ды 400 га ў Нямеччыне. Алею ў вагонь падліла тое, што ўрады гэтых краінаў ведалі пра сытуацыю ўжо амаль месяц, але маўчалі. Усё гэта выйшла наверх пасьля заявы кампаніі *Advanta Seeds*, якая прызналася, што выпадкова падмяшала да звычайнага збожжа генэтычна зьмененае.

Першай падала голас Швэцыя. Яе ўрад тэрмінова пачаў абмяркоўваць, ці ня трэба аддаць загад фэрмэрам зьнішчыць усю рунь. Потым было вырашана пачакаць экспэртызы. Прэс-сакратар прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Тоні Блэра пасьпяшаўся запэўніць, што ніякай небясьпекі для здароўя людзей няма, бо працэнт «атрутнага» зерня невялікі — менш за адзін адсотак з таго, што пасеялі.

У апошнія гады *GM*-прадукты (ад ангельскага *genetically modified* – «генэтычна зьменены») зрабіліся вялікай праблемай. Прыхільнікі геннай інжынэрыі паказваюць на тое, што навукоўцы, зьмяняючы гены расьлінаў ды жывёлаў, робяць іх больш урадлівымі ды ўстойлівымі да хваробаў. А супрацiўнікі робяць акцэнт на тым, што, магчыма, такія прадукты шкодзяць здароўю людзей, якія ўжываюць генэтычна зьмененую ежу. Таму многія эўрапейскія краіны ў адпаведнасьці з дырэктывамі Эўразьвязу абмяжоўваюць камэрцыйны продаж харчоў, выробленых з генэтычна зьмененых прадуктаў, а экспэрымэнты з генамі дазваляюць праводзіць толькі ў спэцыяльных лябараторыях.

## Інжынэры целаў

Усе арганізмы маюць пэўны набор генаў у сваёй структуры ДНК. Гены — гэта хімічныя інструкцыі для стварэньня й падтрыманьня жыцьця. Мадыфікуючы гены, навукоўцы зьмяняюць характарыстыкі арганізму. Тэхналёгія яшчэ толькі нараджаецца: на сёньня вельмі няшмат *GM*-расьлінаў ды жывёлаў, і сярод расьлінаў зусім няма такіх, якія нясуць у сабе гены жывёлаў ці людзей. А такое магчыма, бо паміж відамі існуе пэўнае падабенства — усе, ад інсэктаў і чарвякоў да малпаў і чалавека ад нараджэньня нясуць у сабе шмат аднолькавых генаў.

Уласна кажучы, сяляне ўжо некалькі тысячаў гадоў займаліся «традыцыйнай генэтыкай», адбіраючы для пасадкі насеньне найлепшых расьлінаў. Потым навукоўцы пачалі спрабаваць стварыць новыя расьліны ды жывёлаў з дапамогай радыяцыі ды хімікатаў, стымулюючы мутацыі генаў — некаторыя зьмены былі пры гэтым карысныя, некаторыя наадварот.

Калі параўнаць ранейшыя мэтады зь лятарэяй (навукоўцы чакалі, што сярод многіх зьмененых пасыўным чынам генаў знойдзецца такі, які прынясе плён), дык генныя інжынэры самі вызначаюць нумар выйгрышнага квітка. Новая тэхналёгія дазваляе вылучаць асобны ген, адказны за пэўную характарыстыку арганізму, ды перадаваць адрэзак ДНК, які той ген утрымлівае, ад аднаго арганізму іншаму. Прычым такі абмен магчымы нават паміж рознымі відамі.

Першай расьлінай са зьмененай генэтыкай быў гатунак табакі, створаны ў 1983 годзе. ЗША былі першай краінай, у якой у 1993-м дазволілі масава вырошчаць ды прадаваць памідоры з запаволеным высьпяваньнем, а таксама прадукты зь іх.

## Наступствы

Да чаго можа прывесьці генная інжынэрыя? Дакладна невядома. Вось прыклад: ня так даўно ў ЗША ды Новай Зэляндыі пачалі шырока экспэрымэнтаваць з разьвядзеньнем ласосяў са зьмененымі генамі. Вынікі былі ашаламляльнымі — малеча расла хутчэй разоў у шэсьць, чым звычайна. Але навукоўцы адразу забілі ў звон: узьнікла небясьпека таго, што рыбіны зьбягуць са сваіх гадавальнікаў. Самкі ласосяў-мутантаў былі нашмат большыя за звычайных, не мутаваных, і, нягледзячы на тое, што ў многіх зь іх былі дэфармаваныя ад нараджэньня галовы, яны маглі прыцягнуць да сябе ўсіх самцоў. Патомства рыбінаў-мутантаў вельмі кволае, і вельмі хутка ласосі маглі зусім вырадзіцца й зьнікнуць. Працаўнікі геннай інжынэрыі даводзяць, што зьмены ў структуры ДНК могуць прывесьці да таго, што новыя арганізмы зробяцца атрутныя ці будуць выклікаць у спажыўцоў алергію.

Часта навукоўцы ўстаўляюць у расьліны гены, якія робяць іх устойлівымі да пэстыцыдаў. Потым, калі на палетках труцяць шкодных інсэктаў, расьліны застаюцца непашкоджаныя. Аднак тэарэтычна магчыма, што тыя інсэкты самі атрымаюць з расьлінаў мутаваныя гены ды зробяцца супэршкоднікамі — ніякая атрута іх тады ня возьме. А калі такія «ахоўныя» гены трапяць у ДНК мікраарганізмаў, якія выклікаюць хваробы? Тады нават самыя бяскрыўдныя зь іх зробяцца невылечнымі.

Але навукоўцы кажуць, што *GM*-прадукты не нясуць у сабе небясьпекі. Некаторы генэтычна палепшаны харч ужо стала заняў месца на паліцах супэрмаркетаў, і пакуль ніякіх катастрофаў з-за гэтага ня здарылася. «Мутанты» ня так хутка псуюцца, добра родзяць, што дапамагае сельскай гаспадарцы разьвівацца не экстэнсыўна, а інтэнсыўна, захоўваючы некранутымі землі. Іх можна зрабіць і больш карыснымі для чалавека — напрыклад, павялічыць колькасьць вітамінаў, якія яны ўтрымліваюць, прымусіць іх выпрацоўваць рэчывы, якія дапамогуць лячыць хваробы. Біяінжынэры запэўніваюць, што ў хуткім часе створаць новыя прадукты, якія можна будзе ўжываць у якасьці альтэрнатыўных крыніцаў паліва.

Праблемы з генэтычна зьмененымі прадуктамі добра адлюстроўваюць стан сучаснай эканомікі, якая ўсё больш манапалізуецца і глябалізуецца. Толькі вялікія карпарацыі могуць дазволіць сабе выдаткоўваць добрыя грошы на экспэрымэнты з генамі. Вялікія біятэхналягічныя кампаніі спрабуюць паставіць фэрмэраў у такія ўмовы, пры якіх тыя ня змогуць вытрымаць канкурэнцыю, калі й надалей будуць ужываць традыцыйныя тэхналёгіі. У сувязі з гэтым можна толькі вітаць ініцыятыву «Макдональдзу», які вырашыў адмовіцца ад ужываньня *GM*-бульбы ў сваіх стравах, выходзячы з «клопату пра кліентаў».

Ну, а Беларусь пасьля чарнобыльскае катастрофы нагадвае адну гіганцкую генную лябараторыю, якая выйшла з-пад кантролю. Адна радасьць — у «біг-маках» усё з генамі ў парадку. Але ж дзе ўзяць грошы на тыя «біг-макі»...

**Алесь Кудрыцкі**

# ЗАРА ЗА БУГАМ

***Польскі друк зноў, як у савецкія часы, стаў для нас прадметам зайздрасьці і захапленьня***

мэрцыйным праектам, прычым амаль 80% ейных прыбыткаў паходзяць ад рэклямы і толькі 20% – ад продажу.

Сярод тых, хто прыехаў у Менск, журналістка Тэрэса Тараньска, аўтарка сусьветнавядомай кнігі «Яны». Калісьці Тараньска працавала ў згаданай ужо *Kultury*, аднак у самы дзень абвяшчэньня «стану военнэго» ўсе «інтэлігенцкія» штотыднёвікі разагналі, і яна засталася бяз штатнай працы — вольная і шчасьлівая. І, каб не згубіць адчуваньня прыналежнасьці да журналіцкай прафэсіі, пачала пісаць кнігу, якая складалася з размоваў з былымі камуністамі – тымі, хто будаваў пасьляваенную Польскую Народную Рэспубліку.

Тэрэса Тараньска паразмаўляла з усімі былымі знакамітасьцямі камуністычнае пары. Яна прыходзіла да іх па 20 разоў – і зусім не для таго, каб абвінавачваць іх альбо зь імі спрачацца, а толькі каб зразумець, чаму яны працавалі на гэтую імпэрыю зла. Журналістка не хавала ад іх сваіх поглядаў. Сярод 30 яе суразмоўцаў быў Якуб Берман – той самы чалавек, які адказваў у камуністычным палітбюро за бясьпеку, ідэалёгію і культуру і займаў у пасьляваенным польскай герархіі другое месца пасьля Ўладыслава Берута. Дарэчы, Берут, імём якога дагэтуль называецца адна зь менскіх вуліцаў ля Кальварыі, у свой час актыўна супрацоўнічаў з гітлераўцамі. У 1939 годзе ён уцёк з Варшавы на ўсход, працаваў у Беластоку ў польскамоўнай газэце *Czerwony Sztandar*, а пад час акупацыі быў буйным чыноўнікам паліцыйнай адміністрацыі ў Менску.

Старыя камуняк і ахвотна зь ёю размаўлялі, упэўненыя, што «праклятая апазыцыянэрка» ніколі ня давядзе справы да друку. Рэліквы былога ладу прамаўлялі ў будучыню; яны лічылі, што гэта іхняе астатняе слова, і намагаліся апраўдаць сваё жыцьцё. Напачатку Тараньскай здавалася, што акурат яны і ёсьць тымі жудаснымі і дурнымі «Імі», якія стварылі чорна-белы сьвет «пэнэрэу». Пазьней яна зразумела, што з чалавека можна зрабіць любое быдла, па-майстэрску дазуючы страх, тартуры, фізычныя і псыхічныя зьдзекі.

Камуністычныя монстры самі баяліся да апошняй хвіліны свайго жыцьця. Берман прыцішаў голас, адказваючы на пытаньне, як складаліся стасункі ў сталінскім палітбюро. А жонка трэцяга чалавека ў дзяржаве, Юлія Мінц, баялася выказаць якія-любя крытычныя меркаваньні пра сталінскую сыстэму. Кожны зь яе суразмоўцаў вы гароджваў сябе, аднак абліваў брудам сваіх былых таварышаў.

І ўсё гэта засталося ў кнізе, якую надрукавалі найперш у падпольлі, а вельмі хутка перакалі на многія мовы – неўзабаве яна стала сусьветным бэстсэлерам. Цікава, што роўна праз 10 гадоў Тэрэса Тараньска апублікавала другую сваю кніжку – «Мы», пра эліту «Салідарнасьці» праз пяць гадоў пасьля яе прыходу да ўлады.

Чаму маглі нас навучыць гэткія людзі, як пані Тэрэса? І чаму маглі нас навучыць удачлівыя журналісты з *Gazety Wyborczej*? Перш за ўсё яны хацелі ўзброіць нас практычнымі мэтадамі пашырэньня кола чытачоў. Але вельмі хутка высьветлілася, што нашыя госьці – папросту дзеці процi «Вечэрняга Минска». Зь першаадкрывальніцкім полымем у вачах яны раілі нам друкаваць расклад чыгункі і вынікі рэйдаў па прадуктовых крамах (і вось вам *найсьвяжэйшая* інфармацыя: зь дзесяці яек, якія я купіла 12 траўня ў гастраноме на Кальварыйскай, дом 3, чатыры былі пратухлымі).

Калі журналісты *GW* распавядалі нам, як яны правозілі праз польска-нямецкую мяжу адзін грам урану, каб праверыць шчыльнасьць дзяржаўнага кантролю за радыёактыўнымі рэчывамі, у памяці адразу ўсплыў Шарамет. З той толькі розьніцай, што польскія службы бясьпекі ў гэтай сытуацыі пакаралі мытнікаў, а не журналістаў.

А вось дэталі біяграфіяў нашых польскіх сяброў, а таксама некаторыя факты з гісторыі падпольнага друку ўразілі беларускіх удзельнікаў сэмінару значна болей, чымсь тэарэтычныя развагі пра прафэсійнасьць дэмакратычнага друку.

Што вы думаеце, напрыклад, пра журналістку з прэстыжнага штотыднёвіка, якая ў чэрвені 1979 году, не спалохаўшыся пагрозы звальненьня з працы, паехала суправаджаць Папу Рымскага Яна Паўла II у ягонай першай паездцы па краіне? Гэта было «сьцісла забранёна», акрэдытацыю атрымаў толькі галоўны рэдактар і сакратар парткаму. Але журналістка, анікому нічога не сказаўшы, адправілася за Папам у Кракаў. Вярнуўшыся ў рэдакцыю праз 10 дзён, уцякачка даведалася, што і двое зь ейных калегаў таксама паехалі за Папам. Прычым усе яны засталіся на сваіх пасадах.

Зрэшты, нядоўга. Бо па абвяшчэньні ваеннага становішча быў выдадзены загад, паводле якога ўсе журналісты мусілі прайсьці спэцыяльную атэстацыю. Па сутнасьці, гэта была праверка палітычнай лаяльнасьці. І можаце сабе ўявіць: 300 чалавек з 10000 журналістаў, якія працавалі ў афіцыйным друку, увогуле адмовіліся ад атэстацыі. Многія зь іх напісалі тлумачэньні, што яны лічаць гэткую атэстацыю формай прыгнёту і зьнявагі. Усе гэтыя людзі сьвядома выбралі долю беспрацоўнага – ці, дакладней кажучы, бескарысьлівага працаўніка падпольнага друку. Бо толькі нашмат пазьней ім сталі плаціць дапамогу ў памеры сярэдняй зарплаты.

Калі ўсё гэта ведаеш, ужо не здзіўляесься, што пры канцы 1980-х «Салідарнасьць» налічвала 10 мільёнаў сяброў, а найбуйнейшыя з соцень падпольных выданьняў, якія дзейнічалі ва ўмовах поўнай канспірацыі, мелі наклад ад 40 000 да 100 000 асобнікаў.

Вось такі ў нас атрымаўся «ўрок польскае». Урок польскае – урок свабоды.

**Юлія Андрэева**

# ДОМ, У ЯКІМ ПРЫДУМАЛІ КРАІНУ

## Віленская кватэра Івана Луцкевіча ідзе на знос




У Вільні помнікі беларушчыны разбураюцца ня так часта, як у Менску. Такую выснову я раблю з назіраньняў апошніх дзесяці гадоў. Нам часьцей даводзіцца паведамляць чытачам то пра знос менскага Малога гасьціннага двара, то пра знос дому на Дзімітрава, 3, які памятае першыя сходкі БНФ і які застаўся на сваёй вуліцы адзін. Гэта толькі сёлетнія страты нацыянальнае культуры і памяці ў Менску. У Вільні ж, у старой яе частцы, як правіла, увогуле нічога ня зносіцца. Тым больш кідаецца ў вочы з гэтага правіла выключэньне, калі на тваіх вачах разьбіраюць ці ня самы галоўны ў XX ст. беларускі віленскі дом.

Актыўнае беларускае жыцьцё ў гэтай камяніцы скончылася ў 1921 годзе. Але ж колькі сапраўды важных імёнаў можна было б упісаць у мэмарыяльную табліцу! Хто ведае, магчыма некалі так і адбудзецца. Толькі табліца тая будзе вісець на сьцяне навамоднага офісу і пачынацца будзе са словаў «на гэтым месцы...», а ня «ў гэтым доме...» Зрэшты, пакуль памятны будынак яшчэ далічвае свае апошнія дні, у нас ёсьць магчымасьць прынамсі разьвітацца зь ім па-людзку. Бо няма ніякай надзеі, што цяперашнія літоўскія ўлады стануць дбаць пра беларускую спадчыну на шкоду астранамічным інвэстыцыям для гарадзкога бюджэту ў гэты кавалак зямлі ў самым цэнтры места. Але верыцца заўсёды ў лепшае. А лепшае з рэальнага сёньня выглядае так. Пройдзе яшчэ дзесяць ці, можа быць, сто гадоў, і ў нармальных падручніках беларускай гісторыі і культуры будзе абавязкова фігураваць гэты адрас. Таму ўсім зацікаўленым асобам варта адзначыць яго ў сваёй памяці ўжо цяпер — Віленская, 33 (гэта тагачасная нумарацыя). Для тых, хто добра ведае савецкую і постсавецкую Вільню, скажу, што гэта будынак рэстарану «Паланга», які фасадам глядзіць на праспэкт Гедыміна. Менавіта да такога кандовага выгляду быў даведзены ў савецкія гады колішні двухпавярховы дамок. Цяпер разбуральнікі ўжо зьнялі сьляды савецкае «мадэрнізацыі» і адкрылі вачам сьцены старое кладкі. На сьвет паказалася прыстанішча штабу беларускага адраджэньня, дзе выношваліся ўсе глябальныя ідэі ўладкаваньня Беларусі, у тым ліку і ідэя незалежнай БНР.

Апошні зь беларускіх знаўцаў Вільні, Лявон Луцкевіч, якога ўжо некалькі гадоў няма на сьвеце, у сваіх нататках пра дом на Віленскай, 33 пісаў:

«Некалі, з 1911 году, тут была бібліятэка-чытальня «Веда» Барыса Даніловіча, актыўнага ўдзельніка беларускага руху. Тут зьберагаліся ўсе экспанаты будучага Віленскага беларускага музэю й жылі браты Іван і Антон Луцкевічы. Па сутнасьці, тут быў неафіцыйны грамадзка-палітычны цэнтар, асабліва ў пару першай сусьветнай вайны. Вакол І.Луцкевіча канцэнтравалася тады ўся беларуская праца, а таму шмат падзеяў адбывалася тады менавіта ў гэтым доме».

Яшчэ больш падрабязна пра тыя часы згадвае ў сваіх мэмуарах сьведка падзеяў пісьменьніца Юліяна Вітан-Дубейкаўская, якая тады працавала ў Пецярбурскім Музэі мастацтваў і старажытнасьцяў:

«У пачатку чэрвеня 1915 г. я прыехала, як звычайна, дахаты на вакацыі. Як звычайна, я пайшла ў госьці да маёй малодшай, але ўжо замужняй сястры, Зофіі Нагаткінай, каб падзяліцца зь ёю ўсімі навінамі. Сястра якраз зьбіралася ехаць у места й казала мне:

— Сядай, паедзем разам, я мушу заехаць у бібліятэку «Знаньне», там жыве археоляг Луцкевіч, ён абяцаў мужу здабыць якоесь старое выданьне (муж сястры, палкоўнік Ё.Ст.Нагаткін быў заўзяты бібліяфіл і зьбіраў цікавыя выданьні). І табе будзе цікава пазнаёміцца зь ім, гэта ж для цябе калега па фаху.

Мы прыехалі на Віленскую 33, Іван Луцкевіч згодна ўгавору чакаў сястру. Яна нас пазнаёміла, як калегаў. Іван Луцкевіч, які вельмі ганарыўся сваімі музэйнымі зборамі, усьцешыўся нагодзе паказаць свой музэй асобе, якая штосьці ў тым разумее і можа ацаніць гэтыя аказы мінуўшчыны. Сястра сьпяшалася й сказала:

— Калі цябе цікавяць гэтыя зборы, дык заставайся.

Я засталася, бо мяне цікавілі гэтыя рэчы беларускай старасьвеччыны. А затым Іван Луцкевіч гутарыў са мной як са старой знаёмай, так што я чулася зусім свойска. Між намі паўсталі гутаркі аб стылі, і Іван Луцкевіч з захапленьнем і свойскай яму жывасьцяй прачытаў мне цэлую лекцыю аб асаблівасьцях беларускай культуры й мастацтва».

Паміж Юліянай Вітан-Дубейкаўскай і Іванам Луцкевічам завязваецца сяброўства. Трэба заўважыць, што Іван быў сапраўдным цэнтрам усяго беларускага жыцьця. Менавіта яму належалі ўсе палітычныя, культурныя, адукацыйныя ініцыятывы. Менавіта ў ягонай кватэры зьбіраліся арганізатары першага Беларускага кангрэсу, які адбыўся ў Менску і славутай пасьля Віленскай беларускай гімназіі. А ў гады першай сусьветнай вайны, пад нямецкай акупацыяй, у кватэры Луцкевічаў была рэдакцыя штодзённай газэты «Гоман», якая прыйшла на зьмену зачыненай «Нашай Ніве». Таксама тут зьбіраўся Беларускі Нацыянальны Камітэт, які прадстаўляў інтарэсы беларусаў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі.

Тут пісаўся Ўнівэрсал з дэклярацыяй адраджэньня Вялікага Княства Літоўскага, тут фармавалася ідэя незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, сюды зьяжджаліся лідэры нацыянальнага руху, тут увесь час круціліся стукачы — расейскія, польскія, нямецкія, сюды энэргічны Іван цягнуў чарговы набыты ці выменяны недзе прадмет старасьвеччыны. Напрыклад, Аль-Кітаб — беларускую кнігу арабскім пісьмом. Іван ня быў пісьменьнікам, яго вабіла творчасьць самой стыхіі жыцьця. І ці не адзіная падпісаная ягоным імем нататка была пра Аль-Кітаб, настолькі захапіла яго гэтая гістарычная і культурная зьява.

Іван Луцкевіч быў сапраўдным маторам, чалавекам-аркестрам, да якога цягнуліся людзі. Хто ведае, як магла б павярнуцца гісторыя, каб гэтага чалавека не забрала заўчасная сьмерць ад сухотаў у 1919 годзе. Юліяна Вітан-Дубейкаўская прысьвяціла свайму сябру цэлую кнігу «Мае ўспаміны», якая выйшла ў Вільні ў 1994 годзе. А яшчэ раней, адразу пасьля сьмерці Луцкевіча зьявілася брашура «Памяці Івана Луцкевіча», адзін з аўтараў якой, Максім Гарэцкі, пісаў:

«Вясною 1919 г., зайшоўшы да Івана Луцкевіча, я ўвідзіў яго ў непараўнальна горшай хворасьці, чымся калі бачыў мяне ён... Я толькі дзівіўся, чаму ён бядуець толькі ўсё аб справе й зусім не зважаець на свой блізкі канец. Да яго выезду ў Закапанэ залучаў я на знамянітую ў нашым руху кватэру на Віленскай, 33 і заўсёды знаходзіў у хворага поўна гасьцей. Сюды вялі дарогі з усіх беларускіх установаў Вільні; сюды ішоў кожны беларус, быўшы праездам у Вільні; сюды ішоў кожны паступовы грамадзянін краю, каб пагаманіць аб справах краю...»

Сьмерць Івана Луцкевіча радыкальна зьмяніла ўсю сытуацыю віленскае беларушчыны. Бібліятэка і музэй пераехалі зь Віленскай, 33 на Вастрабрамскую ў памяшканьне беларускай гімназіі, зьехаў з кватэры на іншы адрас і брат Івана Антон Луцкевіч. Цяпер яму належала пераняць брата лідэрства ў беларускіх справах, што ён і зрабіў. Пасьля апошняй вайны будынак быў перароблены ў рэстаран.

Убогі, трэба сказаць, гэта быў рэстаран. Тыповы савецкі. Бэтонныя бакі і шкляны фасад, заходжаны рыпучы паркет і невынішчальны смурод ад цэлых пакаленьняў катлет па-кіеўску, ад судамыйных анучаў і перасмаленага алею. Паўзмрок. У Беларусі такія «Палангі» можна знайсьці ў кожным абласным і раённым цэнтры. Апошнія дзесяць гадоў рэстаран надта кантраставаў з сваім атачэньнем пахарашэлага віленскага цэнтру. Упэўнены, што ніхто не пашкадуе пра гэты знос. Зрэшты і старыя муры колішняй бібліятэкі Даніловіча наўрад ці ўяўляюць якуюсь архітэктурную каштоўнасьць. Але беларуская памяць страціць цяпер яшчэ адзін з сваіх знакавых адрасоў. Дом Івана Луцкевіча — верагодна, так яго варта называць. Дом на Віленскай, 33 адпраўляецца ў нябыт.

**Сяргей Паўлоўскі**



календар

**22 траўня 1950 г.** войскі Кітайскай Народнай Рэспублікі акупуюць Тыбэт, велікадушна прапануючы тубыльцам фіктыўную аўтаномію. Тыбэтцы, як і кітайцы, прайшлі ўсе этапы камуністычнага пекла: разам зь імі будавалі сьветлую будучыню і мэталюргічныя заводзікі на падворках. Праз 50 гадоў кітайскай акупацыі тыбэтцы не скарыліся, а пранесьлі веру ў здабыцьцё незалежнасьці сваёй горнай краіны.



**24 траўня 1900 г.** на ваду быў спушчаны крэйсэр «Аўрора», стрэлам якога пачаўся кастрычніцкі пераварот у Расеі.

**24 траўня 1925 г.** выйшаў першы нумар «Комсомольской правды», друкаванага воргану савецкага камсамолу. Беларускія ж камсамольцы апярэдзілі маскоўскіх калегаў: беларуская маладзёвая газэта «Красная смена» (пазьней «Чырвоная зьмена») пабачыла сьвет у 1921 г.

**27 траўня 1900 г.** нарадзіўся Ўладзімер Жылка. Паэт, перакладчык, крытык. З 1919 г. У.Жылка — сябра партыі беларускіх эсэраў і актыўны ўдзельнік антыпольскага падпольля. У 1923 г. ён пакідае «Беларускую Мэкку» Вільню і паступае на філялягічнае аддзяленьне Карлавага ўнівэрсытэту, што ў Празе. У 1926 г. Жылка прыехаў у Менск, каб паўдзельнічаць у Акадэмічнай канфэрэнцыі ў справе беларускага правапісу. Беларуская мова на менскіх вулачках, бел-чырвона-белыя сьцягі, што аздаблялі канфэрэнцыю, падманулі паэта. Здалося, што вось яно, тое, за што ён змагаўся ў Заходняй Беларусі, зьдзейсьнілася ўва Ўсходняй. Прыезд у Менск завяршыўся фатальна. Захоплены будаваньнем беларускага дому, У.Жылка вырашае застацца ў савецкай Беларусі. Праз чатыры гады, 18 ліпеня 1930 г. ён быў арыштаваны і з абвінавачаньнем у прыналежнасьці да Саюзу Вызваленьня Беларусі прысуджаны да пяці гадоў высылкі ўва Ўржум, горад, дзе нарадзіўся бальшавіцкі дзеяч Сяргей Кіраў (Кострыкаў). Яўхім Кіпель прысьвяціў Жылку ў сваіх «Эпізодах» асобны разьдзел, там ёсьць такія словы: *«Як жыў Уладзімер Жылка ва Ўржуме? ...На апісаньне Жылкавага жыцьця я знаходжу толькі адно слова — жудасна! Паэт,*

# ЛАВА Ў СТАРЫМ ПАРКУ

Фота Уладзімера Парфяняка

Віленская рэстарацыя «Паланга» заўсёды была месцам сустрэчаў. Турысты не заўважалі яе — звычайны будынак у духу 70-х гадоў, нічым не прыкметны на тле шыкоўнае віленскае архітэктуры ранейшых эпохаў. Турысты шукаюць экзотыкі, яе ў Вільні багата. А «Паланга»... Месца для ўнутранага, так бы мовіць, хатняга ўжытку, для саміх віленчукоў.

Напрыканцы савецкіх часоў тут можна было даволі танна й прыстойна пад'есьці. Напрыклад, узяўшы комплексны абед, з абавязковым халодным баршчом ды гарачай адбіўною. Добра памятаю, як тады тут наразалі хлеб. Танюткімі, амаль празрыстымі скібачкамі.

Вось жа ў «Палансе» я пакрысе й пераззнаёміўся зь віленчукамі. З рэдактарам часопіса «Крантэй» Вайдотасам Даўнісом, з рэдактарам газэты «Шяўрес Атенай» Пранасам Моркусам, зь беларускімі мастакамі Алегам Аблажэем і Сяргеем Пакладам. А таксама з рэдактарам тутэйшае польскае газэты Ўладыславам Струмілам, які выдатна гаварыў па-беларуску й нават перакладаў зь нямецкай для «Нашай Нівы»... Яго можна было сустрэць у гэтай рэстарацыі ледзь не штодня. І гэтаму месцу ён прысьвяціў багата сваіх апавяданьняў. Напрыклад, «Memento mori»:

«А ўвечары... Увечары была, натуральна, «Паланга». Сядзелі мы ўгары, але не за столікам справа, як заўсёды, ён быў заняты, а ўселіся ля вакна, адкуль выгляд быў і на ўсю вялікую залю й на сквэр звонку — невялікі, смутнаваты й нейкі таямнічы».

Сквэр насупраць сапраўды таямнічы, ціхі, у густой засені. Проста пасярод гарадзкога тлуму. У ім была магіла савецкага генэрала Чарняхоўскага зь вялікім помнікам. Ад таго сквэр называлі Чарняхоўкаю. Яшчэ раней на месцы генэрала стаяла расейская капліца Сьвятога Георгія, у гонар касаваньня вуніі. Ад яе за расейцамі й праспэкт зваўся Георгіеўскім. А да таго тут стаяла старасьвецкая капліца Сьвятога Юра, і ў беларускай традыцыі праспэкт называлі Сьвята-Юраўскім. Няма цяпер тут ні капліцаў, ні генэральскае магілы. Засталіся старыя дрэвы. Пра іх таксама пісаў Струміла:

«Я любіў бавіць час у кавярні — сядзеў і думаў, чытаў, рабіў нататкі. Па палудні кліентаў бывала мала. Мой столік з двума крэсламі стаяў крыху ўбаку, але як назіральны пункт, ён быў нібы з мараў. З вакна раскрываўся выдатны від на сквэр, у якім стаялі вялікія дрэвы. Пад адным зь іх, проста насупраць, была лава са сьпінкаю. Папалудні зьяўлялася на ёй дзяўчына».

І праўда, адсюль, з-за велізарных шкляных шыбаў «Палангі», можна было гадзінамі цікавацца за вірлівым жыцьцём Вільні. Як з акварыюму. І можна было тут падгледзець прывіды зь мінулага. Цені даўніх дзён шукаў і мой знаёмы рэдактар:

«Замовіў бутэльку гарэлкі. Дагаддліваму афіцыянту мая замова пэўна здалася дзіўнай, бо ніхто сам сабе не замаўляе цэлай бутэлькі. Ён, аднак, не паказаў зьдзіўленьня, хутка яе прынес, адкаркаваў, наліў кілішак і зьнік. Шнапс быў халодны й меў добры смак. Я выпіў, напоўніў кілішак і зноў выпіў.

Марнаваўся ў кавярні... Цяжка было нават акрэсьліць, колькі мінула часу. Выпіў цэлую бутэльку, але алькаголь ня дзейнічаў. А мо мне толькі гэтак здавалася. Я быў у нейкім здранцьвеньні, у трансе, у чаканьні таго, што ўласна было маёй мэтай: убачыць сквэр, лаву, дзяўчыну на лаве».

Гэтак апісваў Уладыслаў Струміла свае ўласныя крозы. Хоць штосьці прымроіцца тут магло кожнаму. Калі доўга глядзець скрозь шкло на стары віленскі брук. Седзячы тут, я таксама адчуваў шчыльную напоўненасьць эфіру за шыбамі. Тут, зусім побач, была колішняя рэдакцыя «Нашай Нівы», дзе жыў Янка Купала, у суседнім пад'езьдзе жыў мастак і кампазытар Чурлёніс, а ў доме насупраць была рэдакцыя «Нашай Долі». Проста наперадзе, на брукаваным пляцы, расейскія карнікі расстралялі дэманстрацыю віленчукоў у крывавым 1905 годзе.

Але можна тут было спаткаць і здані з часоў нядаўніх. Гэтак Струміла, напрыклад, апісаў адно спатканьне:

«Пазнаёміліся мы зь ім даўно, тут, у «Палансе». На добрым падпітку ён падсеў да нас і напрасіўся на пачастунак.

Былы карэспандэнт ТАСС на Кубе, Віктар, п'янеў штораз хутчэй. Ён быў забаўны хлапец, ня злосны й нейкі безабаронны. Падсеўшы да нас аднаго вечара, уважаў сябе за нашага знаёмага і заўсёды даволі бесцырымонна патрабаваў ад мяне на некалькі наступных кілішкаў».

У свае трыццаць чатыры гады той былы савецкі карэспандэнт шмат чаго перажыў, перажыў і тую краіну, якую прадстаўляў на Кубе і, бадай, самога сябе. Перад самым сваім сконам, проста на эстрадзе ў рэстарацыі, ён усё згадваў сваю кубінскую дзяўчыну Хуаніту. Пасьля напрасіўся да мікрафону, узяў гітару й засьпяваў песьню Гарсія Лоркі...

«Не пытайцеся ў мяне пра тое, што неістотна,— сказаў Віктар, адклаўшы гітару й зьвяртаючыся да залі, ледзьве глядзячы ў наш бок. — Маю пустыя кішэні, але дасканалую памяць. А гэты верш завецца «Разьвітаньне». Папросту разьвітаньне... І гэта ўсё.

Закашляўся, захістаўся, зачапіўся за мікрафон. Стойка мікрафону ўпала, суха ўдарыўшыся вобзем, як грудкі сухое зямлі аб вечка труны.

...Сьмерць наступіла адразу».

Бываў тут і яшчэ адзін вядомы савецкі карэспандэнт, Кіпрас Мажэйка. Мо памятаеце гэткага вусатата дзядзьку з гладкім тварам, які вёў рэпартажы з Заходняй Эўропы для маскоўскай праграмы «Время»? Ён хваліўся ў «Палансе», што ягоным настаўнікам музыкі быў Вітаўтас Ландсбэргіс. Мажэйка нядоўга пабыў у незалежнай Літве, зьехаў у Маскву.

Дый «Паланга» сама мянялася вельмі хутка за найноўшымі часамі. Раптам тут зрабілі аўтамабільны салён «Мазды». Затым тут было адно зь першых віленскіх казыно. Публіка хадзіла сюды таксама калярытная, але зусім ня тая...

«Я ўскочыў на ногі, перакуліўшы крэсла. Зачапіў на бягу афіцыянта, крыкнуўшы, што зараз жа вярнуся й не адзін. Выбег у сквэр. Магутны дуб над лаваю шапацеў на вятры густым лісьцем. Лава была ўжо пустою...»

Сёньня, гледзячы на развалі-ны «Палангі», я згадваю ўвесь карагод людзкіх тыпажоў, што прамільгнулі тут. Многіх ужо няма. Няма і Ўладыслава Струміла. Ён памёр проста ў машыне, едучы зь Беларусі, са сваёй роднай Астравеччыны. Няма й «Палангі». Хоць... засталіся ўсё тыя ж старыя дрэвы і лава пад імі.

**Сяргей Харэўскі**

# У «ПАЛАНЗЕ» ЗЬ ЯЗЭПАМ САЖЫЧАМ

Калісьці, гадоў сем таму, я быў даволі шчасьлівым чалавекам. А як не адчуць радасьць, калі ты жывеш у самым лепшым горадзе сьвету, на календары самы цікавы час, а над тваёй краінаю лунае самы прыгожы сьцяг. Ня дзіва, што ад такога спалучэньня ўсьмешка не сыходзіла з майго твару. Тым больш, і кішэня мая тады не пуставала, і вольнага часу шукаць не даводзілася. Што з гэтым часам рабіць маладому беларускаму нэафіту ў Вільні, як ня траціць яго па кавярнях, размаўляючы з пэрсаналам па-беларуску і ловячы асалоду ад іхнага стараньня ўразумець пачутае. Напачатку дзевяностых новыя кавярні ў Гедымінавым месьце адчыняліся ледзь ня кожны дзень. Шмат я тады змарнаваў часу й грошай па розных «Бочу» ды «Медынінкаях». Але ніколі ня меў жаданьня завітаць у рэстаран «Паланга».

Яе шэрая скрыня на рагу align="left"рознакаляровых Віленскай і праспэкту Гедыміна глядзелася сумным напамінам пра сканалы Савецкі Саюз. Гэтая рэстарацыя была матэрыяльным увасабленьнем таго, што савецкі чалавек разумеў пад словам «шык». Менавіта ў такіх кабаках савецкія кіношнікі любілі здымаць свае опусы пра заходні рай. Зрэшты, і публіка, што запаўняла на пачатку 90-х рэстаран «Паланга», вельмі адпавядала інтэр'еру. Праз вялізнае акварыюмнае вакно ўвечары можна было бачыць, як у пасмах тытунёвага дыму, у сьвятле цьмяных жырандоляў, пад гукі нафталінавых лабухаў, нажыраліся дробныя бандзюгі, адпрыгожаныя новым жыцьцём у адстаўку чырвоныя капітаны ды іхныя гарластыя дамачкі.



Фота Уладзімера Парфяняка

25 сакавіка адна тысяча дзевяцьсот дзевяноста трэцяга году беларуская грамадзкасьць сьвяткавала семдзесят пятыя ўгодкі аднаўленьня дзяржаўнасьці. У Вільню тады прыехала вельмі прадстаўнічая дэлегацыя вэтэранаў нацыянальнага руху на чале з тагачасным прэзыдэнтам БНР Язэпам Сажычам. Быў таксама сьпявак Данчык, сэкс-ідал сьвядомых беларусак. І яшчэ немалая кампанія прагрэсіўнай беларускай моладзі зь Менску. Нейк уліўся ў грамаду й я. Пасьля паездкі на могілкі Росы, пасьля канцэрту старадаўняй музыкі ў былым палацы генэрал-губэрнатара шаноўныя госьці пайшлі на сьвяточную вячэру. І не ў «Асторыю» ці яшчэ што прыстойнае, а менавіта ў «Палангу». Калі б не такое сьвята, дык, пэўна, ніколі б туды й не наведаўся. Пра гісторыю пераапранутых «палангійскіх» муроў я тады яшчэ ня ведаў.

Тое сьвята ня згадваецца мною, як нешта вясёлае. У пустой залі савецкага рэстарану за небагатым сталом старыя віленчукі ды іхныя аднагодкі-эмігранты згадвалі далёка не савецкую маладосьць. Зь іхнай размовы часам даносіліся незнаёмыя мне словы «эсбээм», «бэкэа». І, зрэшты, ня больш знаёмыя «Калыма» й «Таронта». Лексыкон прагрэсіўнай моладзі быў больш насычаны словамі нашага дня — этнагенэз, баксы і... усё тое ж Таронта. Тосты былі за хуткую перамогу й за Бацькаўшчыну. Нехта быў зацягнуў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Усе падхапілі дружнай грамадою. На другім куплеце хор пакінулі маладыя галасы. Да канца песьню дацягнулі толькі некалькі старых. Мне было няўтульна й нямёмка. Быццам няклікaнаму госьцю на чужых хаўтурах. Таму пакінуў я сьвята ў «Палансе» з палёгаю, накіраваўшыся на каву ў колішні «Чырвоны Штраль».

Але маралі ня вынес. «Палангі» ўжо няма, як і некаторых сьвяткавальнікаў таго юбілею. А я да гэтае пары так і ня вывучыў толкам беларускі нацыянальны гімн.

**Зьміцер Бартосік**

*быўшы хворым, ня мог працаваць, каб аплаціць кватэру і апал. Жыў ён на ўскраі Ўржуму ў нейкай закінутай халупе, часта ўзімку няпаленай».* У Жылкавым вершы «Тэстамэнт» ёсьць такія словы:

На зломе дзьвюх эпох злавесных
*У неспрыяльным ветры злым*
*Сваё жыцьцё прайшоў я чэсна*
*Пясьняр, змагар, бядняк праз век, —*
*Быў перш за ўсё я — чалавек.*



У першы вясновы дзень 1933 году Ўладзімера Жылкі ня стала, ён памёр, можа быць, тым самым пазьбегшы расстрэлу ў 1937 г., наўрад ці прабачылі б яму бальшавікі эсэраўскае мінулае і непралетарскае паэтычнае слова. Жылка — прызнаны спадкаемца Максіма Багдановіча ў паэзіі.

**Увесну 1525 г.** скончылася сялянская вайна ў Нямеччыне, што скаланала гэтыя землі некалькі гадоў. 7 траўня быў жорстка закатаваны адзін з правадыроў сялянскіх войнаў Томас Мюнцэр. Да паўстаньня Севярына Налівайкі заставалася 70 гадоў, да казацкай вайны сярэдзіны XVII ст. амаль 125. У Беларусі жыдасьці казацкай вольніцы былі яшчэ наперадзе.

**У 1600 г.** нарадзіўся Самуэль Аскерка, палкоўнік Вялікага Княства Літоўскага, мазырскі земскі судзьдзя. Вось што распавядаецца пра яго ў «Невядомай вайне» Генадзя Сагановіча: «Удзельнічаў у інтэрвэнцыйнай вайне супраць Маскоўскага царства на пачатку XVII ст., пасьля — у Хоцімскай выправе 1621 г., у баях са швэдамі ў Інфлянтах, у кампаніях Януша Радзівіла супраць казакаў у 1649—1651 г. Пад час вайны Аляксея Міхайлавіча кіраваў фармаваньнямі шляхецкага рушаньня і ўзброенымі аддзеламі беларускага сялянства. У 1660 г. абараняў подзьдзень Беларусі ад казацкіх нападаў, пазьней блякаваў маскоўскую залогу ў Старым Быхаве, а ў 1662 г. разам з Сурыным і Мараўскім граміў палкі царскія ваяводаў пад Чавусамі. У 1671 г. фундаваў кляштар бэнэдыктынцаў у Слуцку».

**Алег Гардзіенка**

# МАРТЫРАЛЁГ

***Маракоў Л. Вынішчэньне: Рэпрэсаваныя беларускія літаратары. Даведнік. Менск: Літ.-маст. фонд «Нёман», 2000. — 200 с. Наклад 50 ас. ISBN 985-6555-02-9***

Каштоўнасьць новай кнігі Леаніда Маракова бясспрэчная. Гэта каталёг зьвестак пра рэпрэсаваных (у большасьці ўжо нежывых) беларускіх літаратараў зь максымальна сцiслай, але каштоўнай інфармацыяй: жанр дзейнасьці літаратара, дата яго нараджэньня, даты арыштаў, дата сьмерці, месца сьмерці (або пражываньня). На жаль, няма графы «месца пахаваньня». Ёмісты першапачатковы сьпіс літаратараў пасьля ў кнізе паўтораны яшчэ тры разы: паводле датаў нараджэньня, паводле датаў арыштаў, паводле датаў сьмерці. Для чытача такі чацьвярны паўтор зручны, значыць, апраўданы.

Як вынікае з прадмовы, мэтай кнігі было паказаць адвечна варожае стаўленьне ўладаў (расейскіх царскай і савецкай, польскай і нямецкай) да беларускага друкаванага слова і яго стваральнікаў. Так бы мовіць, паэт у Беларусі — больш за паэта, гэта — палітычны злачынец. У часе працы над выданьнем аўтар вырашыў не абмяжоўвацца нашым стагодзьдзем, але захапіць і XIX ст. Тэрмін «беларускія літаратары» трактуецца вельмі шырока: гэта рознаплямённая інтэлігенцыя, што пацярпела за пісаньне тэкстаў у Беларусі. Ёсьць тут жыдоўскія пісьменьнікі, гісторыкі Павел Горын, Уладзімер Пічэта, Віталь Сярбента, дырыжор і кампазытар Уладзімер Тэраўскі, дзеяч дысыдэнцкага руху Міхась Кукабака, мітрапаліт Мэльхісэдэк, кардынал Казімір Сьвёнтак, географ Ян Чэрскі і іншыя. Ці сапраўды іх можна назваць літаратарамі? Гэтыя акалічнасьці трэба ўлічваць пры падвядзеньні статыстыкі вайны супраць беларускага слова і думкі ў XX ст.

Калі аўтар вырашыў прысвеціць зьвесткі пра рэпрэсіі ў XIX стагодзьдзі, дык, можа, варта было ісьці і глыбей — у XVIII, XVII, XVI ст. і г.д. Першую ахвяру паказаць цяжка. Магчыма, ім




быў мітрапаліт Герасім, спалены князем Сьвідрыгайлам у 1435-м. XVI ст. азмрочылася расправай над публіцыстам Іванам Перасьветавым. Беларус, ён асьмеліўся даваць парады цару Івану Жахліваму і прапаў, як у ваду ўпаў. Крывавае XVII ст. забрала жыцьці царкоўніка Апанаса Філіповіча і бязбожніка Казіміра Лышчынскага. Гэтыя пацярпелі ад «сваіх», а Адам Длужык-Каменскі (паводле некаторых зьвестак — беларус) — ад маскалёў. Ён стаў першым «падарожнікам» не па сваёй волі па Сібіру, які апісаў гэтую зямлю ў мэмуарах. Сумную традыцыю працягнуў у XVIII ст. Юзаф Копаць, касьцюшкаўскі паўстанец, які, дзякуючы ўсходняму суседу, добра азнаёміўся зь зямлёй Камчаткай і даў першае яе апісаньне.

З асобаў XIX ст. увагі заслугоўвае адзін зь першых беларускіх фалькларыстаў Канстанцін Радзівіл, які быў арыштаваны ў сувязі са справай дзекабрыстаў. У XX ст. ж вялася татальная вайна супраць думкі, доказ таму — сама кніга Л.Маракова. Адметна, што сьпіс ахвяраў у некалькі соцень чалавек ня поўны, і аўтар працягвае сваю працу. Сярод неадзначаных ахвяраў ёсьць вельмі вядомыя літаратары (небеларускамоўныя): Алена Скірмунт, мастачка, аўтар дзёньніка «З жыцьця ліцьвінкі» (арыштаваная ў 1863 годзе), Генрык Скірмунт, кампазытар і паэт (расстраляны саветамі ў 1939 годзе), надобрай памяці бацька і сын Лука і Іван Саланевічы (арыштаваныя ў 1933—34 гадах). У кнігу чамусьці ня трапіла ці не апошняя ахвяра ўладаў, паэт Славамір Адамовіч.

Некаторыя зьвесткі патрабуюць удакладненьня. Ігнат Анацэвіч памёр у 1845 годзе ў Пецярбургу як вольны чалавек, хоць раней і высылаўся. Вацлава Ластоўскага сапраўды расстралялі ў Саратаве. Затое ў дачыненьні да Вацлава Іваноўскага слова «расстралялі» не падыходзіць. Ён сапраўды загінуў ад стрэлаў, але ня ката, а тэрарыста, і, быцдам, падбухторанага немцамі. Зусім не пазначаныя рэпрэсіі ў дачыненьні да яго, а ў 1919 годзе ён зьведаў арышт ад бальшавікоў. Тадэвуш Корзан быў арыштаваны толькі аднойчы, у 1859 годзе, а ў 1861 годзе высланы. Некаторыя даты патрабуюць праверкі. Увогуле кніга вызначаецца дастатковай паўнатой і дакладнасьцю. Шкада толькі, што яе наклад малаваты.

**Валеры Пазьнякоў**

# Камоцкі пяе малітвы

***Алесь Камоцкі, «Псальмы», 2000, Magton recards***

На стыку року, фольку, джазу, бардаўскай песьні ў Беларусі зьяўляюцца праграмы новай хрысьціянскай музыкі — леташні калядны праект «Сьвяты вечар», альбом хрысьціянскіх сьпеваў «Зазірні ў неба» гурту «Золак». З гэтага шэрагу і новы альбом «Псальмы» Алеся Камоцкага на біблейныя радкі ў перакладзе на беларускую Рыгора Барадуліна.

Слова «псальмы» паходзіць ад грэцкага «псальмас» — урачысты рэлігійны сьпеў, малітва. Паэтычная форма і мэтар псальмаў грунтуюцца на сынтаксычным паралелізме — варыяцыях адной і той самай тэмы, альбо на выказваньнях, якія сэнсава падпарадкоўваюцца адно аднаму. Кніга псальмаў, напісаная царом Давыдам, налічвае 150 твораў. Скарына ў прадмове да «Псалтыру» адзначаў: «Псалам жастокае сэрца мякчыць і сьлёзы зь яго, якабы са источніка ізводзіць». Псальмы пераклалі Сімяон Полацкі, Іван Луцкевіч, Васіль Сёмуха і вось — Рыгор Барадулін.

Распачынаецца дыск малітвай «Ойча наш». Далей — каля дваццаці трэкаў, на два зь якіх запісана па дзьве ці тры музычна-паэтычныя тэмы. Алесь спачатку цытуе той ці іншы псальм у перакладзе І.Луцкевіча, а потым сьпявае адпаведную музычную вэрсію на вершы Барадуліна. Ёсьць на дыску й гітара Камоцкага. Яна нагадвае тут першы псальмовы інтрумэнт — арфу.




Кампакт-дыск і касэта А.Камоцкага на вершы Р.Барадуліна «Псальмы» — насуперак таму, што памылкова была пісала «НН» — былі выдадзеныя ў Польшчы пры падтрымцы Цэнтру Грамадзянскай Адукацыі «Польшча-Беларусь» і Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў. Аформленыя яны творам дачкі паэта — Ілоны Барадулінай.

Да Бога зьвярнуцца з малітвай залішнім ніколі не будзе...

**Анатоль Мяльгуй**

## навіны

### Шалкевіча прыбралі з школьнай праграмы

16 траўня Полацак сустракаў Віктара Шалкевіча. Сустракаў, аднак, не зусім гасьцінна, бо Полацкая нацыянальная гімназія, дзе мусіў адбыцца галоўны канцэрт, за дзень да прыезду барда адмовілася прымаць госьця ў сваіх сьценах. Спроба знайсьці ў горадзе якую-кольвечы іншую пляцоўку завершылася няўдала. Арганізатары «гастроляў» Шалкевіча пачулі шчырыя прабачэньні і скаргі на ідэалягічны ўціск. Сытуацыя ў правінцыі сёньня моцна нагадвае савецкія часы, калі людзі баяцца ўсяго. Асабліва што зьвязана зь беларускай мовай і нацыянальнай культурай. Найбольш запалоханыя настаўнікі. Тыя людзі, якія апынуліся ў самым жабрацкім становішчы, прыніжаныя і зьняважаныя як ніколі.

Суседні Навапалацак выглядае выспай беларускага лібэралізму — усяго за пару гадзінаў удалося атрымаць дазвол на правядзеньне сустрэчы з бардам ува ўнівэрсытэце. Актыўны ўдзел у арганізацыі канцэрту ўзялі сябры рыцарскага клюбу «Жалезны воўк» — на раніцу ў горадзе ўжо віселі афвесткі. Канцэрт адбыўся ў традыцыйным Шалкевічавым стылі — з показкамі, жартамі і, вядома, песьнямі пра беларусаў.

А ў Полацку толькі ўвечары прыхільнікі яго творчасьці сабраліся ў мясцовым офісе БНФ, што ў гатэлі «Дзьвіна» (вокны офісу выходзяць на пляц Скарыны, і ў іх амаль зазірае бронзавы першадрукар). Пад час канцэрту пад «апазыцыйнымі вокнамі» доўга стаяў міліцэйскі газончык, і ахоўнікі парадку, напэўна, таксама з асалодай праслухалі «Хамскую ўладу» і «Кароткую гісторыю Беларусі».

**Васіль Кроква, Полацак**

### Фільмы Дашкевіча й Волах










У сядзібе Народнага Фронту прайшоў прэм'ерны паказ новых дакумэнтальных фільмаў незалежных беларускіх кінэматаграфістаў. Карціны Алега Дашкевіча "Простыя гісторыі" і "Рыцары мары" распавядаюць, адпаведна, пра чарнобыльскіх перасяленцаў у Менску і пра змаганьне беларускай моладзі за незалежнасьць краіны. Фільм Ірыны Волах "У

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры.** № 3—4, 1999. — Менск, 1999. — 288 с. ISBN 9955-437-02-2

*Тэмай тоўстага нумару альманаху стала «Крытычнае мысьленьне».*

У.Шелихин. **Сердце помнит:** Альбом-книга. — Менск: выдавецтва «Чатыры чвэрткі», 2000. — 224 с., іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6089-51-4

*Колішні дыктар беларускай тэлевізіі й радыё, артыст Уладзімер Шаліхін згадвае пра свае сустрэчы з знакавымі фігурамі беларускай, савецкай і сусьветнай культуры: ад Міхася Забэйды-Суміцкага й Ларысы Александроўскай да Мсьціслава Растраповіча й Міхаіла Баярскага.*

**IV Міжнародныя Кірыла-Мятодаўскія чытаньні,** прысьвечаныя Дням славянскага пісьменства й культуры: Матар'ялы чытаньняў (Менск, 24—26 траўня 1998 г.). У 2 ч. Ч. 1 / Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт, Беларускі ўнівэрсытэт культуры; Рэд. калегія: А.Бендзін (адказны рэдактар) ды інш. — Менск: Беларускі ўнівэрсытэт культуры, 1999. — 162 с. — Наклад 200 ас.

**IV Міжнародныя Кірыла-Мятодаўскія чытаньні,** прысьвечаныя Дням славянскага пісьменства й культуры: Матар'ялы чытаньняў (Менск, 24—26 траўня 1998 г.). У 2 ч. Ч. 2/ Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт, Беларускі ўнівэрсытэт культуры; Рэдакцыйная калегія: А.Пазьнякоў (адказны рэдактар) ды інш. — Менск: Беларускі ўнівэрсытэт культуры, 1999. — 192 с. — Наклад 200 ас.

*Сярод іншых матар'ялаў зборніка варта вылучыць тэкст А.Бендзіна «Расейская праваслаўная царква й праблема беларускага нацыяналізму (пачатак XX ст.)».*

**Берасьцейскі хранограф:** Зборнік навуковых працаў. Вып.2. — Берасьце: Выдавецтва С.Лаўрова, 1999. — 400 с. — Наклад 100 ас. ISBN 985-6371-54-6

*Зьмешчаныя працы берасьцейскіх, іншых беларускіх, расейскіх, латыскіх ды ўкраінскіх дасьледнікаў з гісторыі Беларусі й Берасьця. Найцікавейшы матар'ял — артыкул Э.Якабсона з Рыгі «Латвія й Беларусь. Пачатак дачыненьняў (1919—1920)» — пра спробу Ўраду БНР з дапамогаю Латвіі аднавіць сваю ўладу ў краіне й стаўленьне латыскіх уладаў да праблемаў Беларусі.*

**З гісторыі вякоў і пакаленьняў Івейскага краю:** Матар'ялы навукова-практычнай краязнаўчай канфэрэнцыі / Пад рэдакцыяй І.Крэнь. — Горадня: Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт, 1999. — 256 с. — Наклад 2500 ас. ISBN 985-417-145-0

Л.Ракава. **Традыцыі сямейнага выхаваньня ў беларускай вёсцы.** — Менск: Ураджай, 2000. — 111 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0398-5

*На шырокім гістарычна-этнаграфічным матар'яле аналізуюцца традыцыйныя формы, мэтады й сродкі выхаваньня дзяцей, распавядаецца пра адметнасьці побыту й культуры нашых продкаў.*

Т.Бондар. **Імем Айца і Сына:** Аповесьць, раман. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 317 с. — Наклад 1650 ас. ISBN 985-02-0380-3

*У чарговую кнігу беларускае пісьменьніцы, рэдактаркі расейскамоўнага часопіса замежнай літаратуры, увайшлі навэлі й раман «Мечаная».*

С.Яновіч. **Запісы веку.** — Беласток, 1999. — 97 с. — (Бібліятэка беларускага літаратурнага аб'яднаньня «Белавежа». Кн.26). ISBN 83-85918-18-3

**Лісьце срэбнай таполі.** З польскай лірыкі XX ст. выбраў і пераклаў Ян Чыквін. — Беласток, 1999. — 110 с. — (Бібліятэка беларускага літаратурнага аб'яднаньня «Белавежа». Кн.28). ISBN 83-85918-20-5

**Сьляза пякучая Айчыны.** Творчы партрэт Яна Чыквіна. — Беласток, 2000. — 167 с. — (Бібліятэка беларускага літаратурнага аб'яднаньня «Белавежа». Кн. 29) ISBN 83-85918-21-3

*Уладзімер Калесьнік, Уладзімер Конан, Масей Сяднёў, Ала Сямёнава, Ніна Мацяш, Алесь Разанаў ды іншыя літаратары апісваюць ды характарызуюць творчасьць беластаччаніна Яна Чыквіна.*

Г.Тварановіч-Сеўрук. **Верасы Дараганава:** Лірыка. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. — 96 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-70-X

*Другі зборнік паэткі.*

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

пошуках бэльвэдэру” дасьледуе розныя варыянты беларускага патрыятызму. Усе тры стужкі можна набыць на адной маляўніча аздобленай відэакасэце.

### Сомаўская Эўфрасіньня

Экспэртная рада Міністэрства культуры падсумавала вынікі конкурсу праектаў помніка Эўфрасіньні Полацкай для яе роднага гораду. Пераможцам стаўся малады скульптар Аляксандар Сомаў, які стварыў свой праект помніка першай беларускай сьвятой яшчэ пад час навучаньня ў Акадэміі мастацтваў. Праект Сомава ўхвалілі і гарвыканкам, і мясцовыя царкоўныя ўлады. Праекту Голубева, які раней вельмі нахвальвала праваслаўная мітраполія, адракліся.

### Выстава Цыркунова

У Беларускім інстытуце праблемаў культуры (насупраць кінатэатру «Вільня») адчынілася выстава жывапісу Алеся Цыркунова "Краю беларускага віды". На выставе прадстаўлены экспрэсіўна асэнсаваныя краявіды нашай зямлі ад Вільні да Прыпяці: "Вострая Брама", "Мядзельскі замак", "Барысаглебская царква ў Наваградку", "Хата Зоські Верас", "Альтанка Купалы", "Хата Ўладзімера Дубоўкі". У адным зь зімовых краявідаў мастак адлюстраваў прывіды былых змагароў за незалежнасьць Айчыны.

### Праекты Мальдзіса



Вядомы навуковец Адам Мальдзіс пад час сустрэчы пісьменьнікаў з У.Латыпавым зьвярнуўся да яго з прапановай пераносу загараднай рэзыдэнцыі Лукашэнкі ў Лошыцкі парк, дзе захавалася старая панская сядзіба. Як вядома, рэзыдэнцыя "Дразды" пабудаваная на месцы былога канцлягеру. Ператварэньне яе ў мэмарыял ахвяраў нацызму дазволіла б патлумачыць замежным паслам, чаму іх прымусілі зьехаць з Драздоў, лічыць А.Мальдзіс. Менскі андэграўнд ужо адрэагаваў на Мальдзісавы пражэкты акцыяй "Гуканьне Лукашэнкі". Музыкі рок-гурту "Сонца-Кветкі", мастачка Ірына Малеціна і артысты Тэатру Псыхічнае Няўраўнаважанасьці ўзьлезлі ўначы на дрэвы Лошыцкага парку і некалькі гадзінаў запар сьпявалі, замест салаўёў, патрыятычныя песьні. Парк, у які запрашаецца жыць Лукашэнка, здавён скарыстоўваўся санэпідэмстанцыяй для пахаваньня паршткаў жывёлаў, у тым ліку чумных.

Юрась Барысевіч

### Шанько — дырэктар «Беларусьфільму»

Пасада дырэктара студыі, што стаіць на мяжы банкруцтва, была вакантная 10 месяцаў. Новы дырэктар — кінаінжынэр, спэцыяліст па гуку, прапрацаваў на прадпрыемстве больш за 25 гадоў, узначальваў гукавы цэх кінастудыі і доўга быў яе галоўным інжынэрам. Апошні час В.Шанько кіраваў Дзяржаўным рэгістрам па ліцэнзаваньні кінавідэапрадукцыі.

### Шосты зьезд лідчукоў сьвету

Выхадцы зь Лідчыны штогод разам зьбіраюцца на радзіме. Дэлегатамі чарговага зьезду сталі 120 чалавек.

БелаПАН

## Дзень музэяў



Алесь АРКУШ

Галоўным сьвятам у Полацку робіцца Міжнародны дзень музэяў, які ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае 18 траўня. Яно не такое масавае і пампэзнае, як Дзень перамогі, але жывое і зьмястоўнае. 9 траўня па савецкай завядзёнцы паспалітыя палачане — досыць масавая іх катэгорыя — адзначалі сьвята ля Кургану Несьмяротнасьці. Усё гэта называецца народнымі гуляньнямі: зь мітынгам-рэквіемам, ускладаньнем кветак, запальваньнем «вечнага агню», шэсьцем вэтэранаў і мастацкай самадзейнасьцю, а бліжэй пад вечар — п'янымі пад кожным кустом і кулачнымі спаборніцтвамі ўнукаў і праўнукаў пераможцаў.

Зусім па-іншаму прайшоў дзень 18 траўня. Мерапрыемствы пачаліся ў краязнаўчым музэі, супрацоўнікі якога падрыхтавалі новую выставу «Час і грошы». Гэта своеасаблівая гісторыя Полацку XX ст., выкладзеная з дапамогай грашова-крэдытных знакаў. Цікава параўноўваць харчовыя карткі 20-х і 90-х гадоў. Ня менш цікава разглядаць шматколерную і шматпамерную «баністыку». За шклом усялякія чырвонцы, скарбовыя білеты, «керанкі», закладныя, акцыі, аблігацыі, пазыковыя лісты, лятарэйныя білеты, карткі на хлеб і гарэлку, «зайчыкі».

З выставы можна даведацца, што выкладчык полацкай настаўніцкай сэмінарыі М.Ласковіч — у экспазыцыі маецца дакумэнт — атрымліваў у месяц 91 рубель 64 капейкі (без уліку розных даплатаў і выдаткаў на харчаваньне). Побач цэны тавараў і паслуг. Фунт (0,4 кг) цяляціны 1-га гатунку каштаваў 15 кап., фунт вэнджанай кілбасы — 22 кап., дзясятак яек — 20 кап. Усё гэта — у 1913 годзе. Пры канцы экспазыцыі можна пацікавіцца зарплатай выкладчыка полацкага пэдкаледжу ў наш час. У сярэднім у месяц ён мае крыху болей за 20 тыс. рублёў (стаўка першай катэгорыі). Побач цэны. Пераказваць няма патрэбы — кожны ведае сам. На гэтай жа вітрыне перадвыбарчыя і рэфэрэндумныя «тэзы» першага беларускага прэзыдэнта. Калі пералічыць дзьве зарплаты ў стратэгічныя для Беларусі яйкі, дык атрымаем, што М.Ласковіч мог набыць 458 дзясяткаў, а яголы калега-ананім з далёкага 2000-га ўсяго каля 50-ці. Рэгрэс, як бачым, відавочны. Таму показка з часоў кастрычніцкіх закалотаў — «няма грошай ні кап'я, разьмяніце дзесяць мільёнаў» — сёньня не выклікае нават іранічнай пасьмешкі.

А ў музэі кнігадруку адбылося адразу некалькі мерапрыемстваў. Адкрылася выстава скульптуры маладога менскага скульптара Паўла Вайніцкага «Час, які спыніўся ў доме №22» — першая пэрсанальная выстава мастака. Нетрадыцыйна для гэтага «важкага» жанру выглядае аўтапартрэт скульптара — клетка-галава з дроту, у якой сядзіць маленькі папуга. Пад час прэзэнтацыі птушка маўчала. Было б двойчы арыгінальна, каб папуга гучна прамовіў нешта крамольнае. Быў бы сынтэз скульптуры й цырку.

Пасьля ў гэтым самым музэі пачаўся канцэрт вясковай музыкі 20–30-х гадоў, той, якая гучала на прасьцягу ад Варшавы да Смаленску. Іграў гурт у складзе вядомага мастака і фальклярыста Алеся Лася і яголых сяброў з Польшчы Агаты Адамковіч і Пятра Пішчатоўскага. Вальсы, кадрылі і, вядома, полечкі.

П'яных у гэты дзень я ня бачыў. Вяртаючыся дамоў, побач з аднаўленым сёлета домам губэрнатара, цяпер «Белаграпрамбанкам», знайшоў кавалак зялёнай кафлі XVII ст., такой у маёй калекцыі яшчэ не было.

## ГАМЛЕТ, ПРЫНЦ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Зьміцер ДЗЯДЗЕНКА

Дзея простая, і сюжэт немудрагелісты. У нейкім каралеўстве раптоўна памірае кароль. Ягоная нібыта зразумелая сьмерць, аднак, выклікае мноства самых разнастайных вэрсіяў і тлумачэньняў. Блытаніны ў агульную карціну дадае той факт, што па сьмерці мужа ўдава выходзіць замуж за ягонага брата...

Кожны, хто чуў што-небудзь пра творчасьць Шэкспіра, пазнаў завязку «Гамлета». Напісаная на пачатку XVII ст. (першая рэдакцыя зьявілася недзе ў 1601 годзе), яна дагэтуль застаецца ледзь не эталёнам драматургіі. І кожны артыст ці рэжысэр марыць паказаць сьвету «свайго» Гамлета!..

Сапраўднасьць героя і падзеяў п'есы ня дужа й важная — мы сочым за змаганьнем чалавечага духу. Аднак не-не, дый кране дзесьці ў глыбі роздум: а ці быў сапраўдны Гамлет і ўся гэтая мітусьня? Адкуль узяў Шэкспір гісторыю дацкага прынца? З кронікаў, як у многіх іншых сваіх трагедыях? З расповедаў сучасьнікаў?

Энцыклапэдыі цьвердзяць, што крыніцай Шэкспіравага натхненьня быў твор ягонага старэйшага сучасьніка й земляка Кіда. Той «Гамлет» зьявіўся на якіх пару гадоў раней, але да нас, на жаль, не дайшоў. А вось шэкспіраўскі...

Для мяне гэтая п'еса дагэтуль застаецца загадкай. І рэч тут не ў традыцыйным літаратуразнаўчым поглядзе. Трагедыя пра Гамлета ёсьць... карцінай беларускай гісторыі. Праўда, створанай за... паўстагодзьдзя да таго, як адбыліся апісаныя ў ёй падзеі.

Тут і пачынаецца загадка. Якім чынам Шэкспір за паўстагодзьдзя амаль дакладна апісаў нашыя падзеі? А можа, наадварот — галоўныя дзейныя асобы кіраваліся п'есай пра Гамлета як падказкай?

### Карона Рэчы Паспалітай

Сьмерць Караля польскага й Вялікага Князя літоўскага Ўладзіслава прыйшлася дужа недарэчы. Краіне пагражала казацкая навала. Жыцьцём казакоў была вайна. Іхным рамяством — сеча. Іхным даходам — рабунак. Яны марнелі бязь бітвы.

Уладзіслаў марыў зь іхнаю дапамогаю зваяваць Атаманскую Порту. Аднак грашовыя справы Рэчы Паспалітай былі настолькі паганымі, што сойм адмовіў уладару ў неабходнасьці абвяшчэньня вайны. Казакі, якія чакалі гэтай вайны як збавеньня, зразумелі: гнюсныя паны-шляхта не даюць волі каралю й вялікаму князю. У выніку — жорсткае паўстаньне.

Казацкія палкі лінулі на польскія й беларускія землі, нібы паводка, што вызвалілася з-пад лёду. Ім патрэбная была вайна. Хаця б якая. Раптоўная сьмерць Уладзіслава ад ліхаманкі толькі падліла алею ў агонь: паны забілі добрага караля!

Жарсьці разыграліся ня меншыя ад шэкспіраўскіх. А крыві праліласа, як нам цяпер вядома, нават і болей, чым у якой з трагедыяў клясыка.

Вось тут і пачынаецца наш дэтэктыў. Новым каралём Рэчы Паспалітай становіцца брат Уладзіслава — Ян-Казімер. Узышоўшы на пасад 20 лістапада 1648 году, ён бярэ сабе за жонку... братаву. Удава Людвіка-Марыя Ганзага дэ Нэвэр, нібы каштоўны прыз ці дадатак да кароны, пераходзіць да пераможцы.

Яна гэтага хацела. Яна даўно прагнула быць каралевай. Нават за Ўладзіслава ў 1645 годзе яна ішла толькі таму, што той быў каралём. Гэтую мажную 34-гадовую тады брунэтку не спыніла нават хвароба будучага мужа (Уладзіслаў хварэў на падагру. Хвароба мучыла яго настолькі, што нават да алтару караляжаніха несьлі на крэсьле, а вянчаньне сваіх сямейных абавязкаў ён адклаў на некалькі тыдняў).

Яна выходзіла замуж за карону. І гэтую карону яна пастаралася потым аддаць Яну-Казімеру. Аддаць дзеля таго, каб ён, у свой чарод, падзяліўся гэтай уладай зь ёй.

Шлюб уладара быў справай не прыватнай, а дзяржаўнай. Таму выбар Яна-Казімера доўгі час не прымалі шырокія колы шляхты Рэчы Паспалітай. Дый паводле кананічнага права гэты шлюб лічыўся кровазьмяшальным. Нездарма ж у варшаўскім каралеўскім замку незадоўга да шлюбу невядомая зламысная рука раскідала ўлёткі з надпісам:

*Casimirus rex*
*germana sorore natus*
*germani coniugi copulatus*
*nunquam erit fortunatus*

(Кароль Казімер, народжаны ад роднай сястры першай бацькавай жонкі, злучаны з братавай жонкай, ніколі ня будзе шчасьлівым.)

Аднак Яну-Казімеру і Людвіцы-Марыі ўдалося-такі абысьці ўсе перашкоды. Іхны шлюб быў дазволены Папам Рымскім. Праўда, казаць, што закаханым дапамагаюць нябёсы, тут не выпадала — як ужо згадвалася, шлюб рабіўся з узаемнай карысьці...

Прыпадабненьнем да шэкспіраўскага напалу жарсьцяў падаецца й доўгі шлях Яна-Казімера да пасаду. Яшчэ па сьмерці бацькі, Жыгімонта Вазы, Яна-Казімера вылучалі на каралеўскі сталец. Аднак тады ён сам адмовіўся ад пасаду на карысьць брата Ўладзіслава. Няведама, ці то гэта быў тактычна прадуманы ход, ці то цьвярозая ацэнка сваіх шанцаў.

Аднак пазьней Ян-Казімер ужо не быў такім сьціплым. Уладзіслаў неаднакроць скардзіўся блізкім на неспакойнага брата. А ў шляхецкіх колах Ян-Казімер выклікаў абурэньне тым, што сядаў поплеч караля й вялікага князя на соймах — у гэтым бачылі прэтэнзіі на каралеўскі пасад.

Адкрытых сьведчаньняў таго, што Ян-Казімер рупіўся пра здабыцьцё каралеўскага й вялікакняскага стальца, няма — гэта ўсё ж не Гамлетаў дзядзька з п'есы Шэкспіра. Але зьвяртае на сябе ўвагу той факт, што Ян-Казімер, даведаўшыся пра братаву хваробу, хуценька прыехаў з Парыжу ў Варшаву. Дзеля гэтага прыезду ён нават адмовіўся ад нядаўна нададзенага яму Папам Рымскім званьня кардынала. У кулюарах шапталіся пра новую элекцыю — абраньне караля й вялікага князя...

### Гамлеты сапраўдныя і падманныя

А што ж Гамлет? Хто трапляе ў нашай дэтэктыўнай гісторыі на гэтую ролю? Варыянтаў Гамлета не бракуе, хаця гэта й дзіўна гучыць...



*Жыгімонт-Казімер, сын Уладзіслава IV*

Першы прэтэндэнт на гэтую ролю — найбольш, здаецца, адпаведны. Гэта законны сын Уладзіслава Жыгімонт-Казімер, народжаны 1 красавіка 1640 году, у першым шлюбе караля й вялікага князя з Цэцыліяй-Рэнатай з дому Габсбургаў.

З партрэту пазірае на нас абаяльнае дзіця гадоў сямі. Гэта й ёсьць Жыгімонт-Казімер. На яго ўскладаў усе свае надзеі Ўладзіслаў. На вялікі жаль, гэтым надзеям не было наканавана спраўдзіцца. У 1647 годзе гэтае дзіця памірае ад дызэнтэрыі, наеўшыся нясьпелай садавіны. Наракаць даводзіцца толькі на нізкі ўзровень тагачаснай мэдыцыны...

Праўда, у караля й вялікага князя застаўся яшчэ адзін сын. Аднак Уладзіслаў-Канстанцін быў народжаны па-за шлюбам і таму ня мог быць спадкаемцам стальца. Сваё жыцьцё ён пражыў пад імем графа Вазэна і памёр па-за межамі Рэчы Паспалітай, у Рыме. Цікава прыгадаць той факт, што пры вядомым бацьку застаецца таямніцай імя маці гэтага бастарда. Гісторыкі дапускаюць, што ёй была шляхцянка Ядвіга Лушкоўская.

Неадкрытая таямніца хавае й паходжаньне яшчэ аднаго прэтэндэнта на ролю Гамлета. Гэта вядомы правадыр гуральскага паўстаньня ў сярэдзіне XVII ст. Аляксандар-Леа з Штэмбэрку Костка-Наперскі. Сам ён, злоўлены, сьведчыў, што ёсьць сынам Уладзіслава IV. Што праўда, сьведчаньня на карысьць гэтага цьверджаньня няма...

Гамлеты Рэчы Паспалітай альбо не дажылі да завязкі шэкспіраўскай трагедыі, альбо пазьбеглі ўдзелу ў ёй. А можа, яны й не былі Гамлетамі?..


Фота Анатоля Клешчука

# НАША

Ганна МАТУСЭВІЧ

*Так і творчасьць ідзе па сьпіралі, і кожнае жыцьцёвае прыцягненьне ці адштурхоўваньне ствараe сваю сьпіраль. Таму й сьпіралі Мужчынскага і Жаночага Пачатку ідуць у такіх розных накірунках. Мужчынскі Пачатак імкнецца да захопу і ня лічыцца з сэрцам чалавека. Мужчынскі Пачатак пракладае масты да сваіх дасягненьняў, ступаючы па сэрцах і галовах. Не ў мазгах рэч, бо ў сваім патэнцыяле Жаночы Пачатак утрымлівае тыя ж агні. Але Жаночаму Пачатку патрэбна сардэчнае вызваленьне. Калі ж Жаночы пачатак прывыкне жыць дзеля разьвіцьця свайго патэнцыялу і перародзіць сваё пачуцьцё сталага даваньня, тады Жаночы Пачатак выперадзіць Мужчынскі па ўсіх накірунках.*

***Вучэньне Жывой Этыкі, Сусьвет Вогненны, 3-я частка.***

Убірайся да сваёй Культуры! Вэк! Вэк! Вэк! Далета табе тэрмін! А там пастаўлю замок на дзьверы, і ня ўлезеш у хату! Элементарна гэта робіцца! Я за 11 год зарабіў сабе хату. Гэта мая хата! Кнігі гэтыя твае крышнаіцкія павыкідаю, архіў твой выкулю вон, каб і ня пахла ў маёй хаце індуска-мусульманскай культурай. Чуеш? Вон адсюль! Ты мохам абрасла, мярцьвечынай у доме сьмярдзіць! Тут будзе другая жанчына, якая мяне дагледзіць і дзяцей не пакіне!

Такую вось зьвягу чую амаль штодня ад свайго мужа. Раней нэрвавалася, а цяпер звыклася, дый дзеці ўжо пазвыкаліся. А ўчора ён істотна абнавіў тэкст: «Калі толькі дакажаш сваю правату ўсім, тады паверу ў тваю новую рэлігію. А не — дык выкарчую ўсю тваю Культуру!» Ну што ж! Ён прымушае мяне вынесьці наш сямейны канфлікт на людзі. Але што ні робіцца — усё да лепшага. Я надта ўдзячная мужу, што такім вось чынам ён дае мне шанец паказаць Нашую Культуру, дзе слова Маці пішацца зь вялікай літары.

Некалі мой дзед Міхал хаваў дзесь у прыстрэшку з прыходам немцаў вершы Адама Міцкевіча. Пасьля колькі ні шукалі — не знайшлі. А я цяпер раздаю па людзях кнігі Жывой Этыкі і свае Дзёньнікі. Адна жанчына папыталася: «Дакуль хаваць?» «А пакуль вайна ня скончыцца», — адказвала. У свой час дзяўчаты, мужавы пляменьніцы з Рыгі, мяне паінфармавалі: «У Латвіі шмат сямей разьвялося на нацыянальнай глебе». Калі я пераказала гэтую інфармацыю тутэйшым, яны толькі пасьмяяліся: «Ну, у нас гэтага ня будзе!» Наіўныя людзі! Зрэшты, сыты галоднаму не спагадае. Гэта ў мяне такое дзіця нарадзілася — жарабё з лысінкай, і я змушана была выбіраць сабе такую долю, каб сына абараніць. У іншых таго няма. Будзе нешта іншае, значыць. Усё ж я радая, што выклікала агонь на сябе — сыну палёгка. Вось і мама мая стала нахвальваць Віталіка, а то ўсё раней бэсьціла, і муж так здружыўся з сынам, быццам аднагодкі, а то даўней брахаў на яго, і ў школе настаўнікі ходзяць перад ім на дыбачках, не муштруюць больш, не цягаюць за валасы, ня рвуць сшыткаў, не шпурляюць дзёньнікаў. А я, матка, выцерплю, нічога. Праўда, мой сын ад такіх адносінаў разбэшчваецца: стаў хаміць мне, адкрыта шкодзяць з бацькам удвух. Ну, але такой бяды. Усе ў нас ужо дарослыя, уключаючы другакласьніка Міколку, і кожны будзе адказваць перад Богам за свае ўчынкі, а я магу толькі маліцца за іх, што й раблю.

«Глядзець трэба наперад, а не махаць рукамі», — навучала сваіх аблудных унукаў Бабуля Зоня. І гэта ёсьць Нашая Культура. Сваім існаваньнем, як Ганна Матусэвіч, я абавязана Ёй, Бабулі. Таму й пішу пра Яе. Наўрад ці апублікуюць гэтую маю споведзь пра Нашу Культуру, але, адчуваю, я абавязана напісаць; як у той казцы пабудаваць за ноч мост. Каб потым, калі настане дзень, было па чым перайсьці на новы бераг ракі жыцьця. Нельга заставацца больш пры старым, ушчэнт забруджаным мысьленьні. Ну хоць бы дзетак уратаваць, каб яшчэ шэрым ранкам яны змаглі пераскочыць па маміным мосьце ў Новы Дзень.

Шмат чаго расказвала мне Бабуля, і ейны бедны, цесны пакойчык зьяўляўся як бы Міжсусьветным Штабам, што злучае сьвет фізычны зь Сьветам Нябачным. Яна выслухае мяне, быццам доктар слухае хваробы ў целе. Выявіўшы немач, яна ніколі не заганяе яе назад ды прыпомніць, як лекаваліся ў такіх выпадках ейныя бацькі й дзяды, дае рэцэпты з Нашай Багатай Культуры. Вось яна расказвае пра маіх дзедку й бабку. «Клемянтына зь Міхалам добра жылі. Ніколі ён слова дрэннага не сказаў ёй. Сёмае дзіця нарадзілася слабенькае, і сястра захварэла. Дактары ёй сказалі так: «А вы не прымайце мужа, бо пазыкуеце сваім жыцьцём. Не зважайце, ён мужчына, хай сабе ходзіць па жанчынах. — А ён такі, што ня пойдзе. — Тым лепш». Здаецца, я цяпер ведаю таямніцу дзедкавага заўсёднага чытаньня ксёнжкі (так у нас называлі малітоўнік) ці пакладзенай за абразы лыжкі з забаронай мыць яе... Дзедка памёр, калі я вучылася ў 5-й клясе. Прыгожай была ягоная сьмерць. Два тыдні ён ляжаў у спакоі, як і жыў усё жыцьцё. Позна ўвечары сабраліся ля яго ложку дзеці, унукі, суседзі, жонка. Дзедка нечакана папрасіў хлеба. Унукі ўзрадаваліся: "Дзедка есьці захацеў, будзе жыць!" А ён укінуў у рот хлебны мякіш і разьвітаўся з жыцьцём зямным. Маўклівa, непрыкметна прайшоў ён праз маё маленства, і сустрэліся мы зь ім толькі цяпер, калі я ўведала ад Бабулі, што ён хаваў Выпісы Польскія зь вершамі Адама Міцкевіча... Культуру Нашу ратаваў, каб не панішчылі яе барбары. З тых Выпісаў Польскіх, а яшчэ дома, у Востраве, сьпеўнік быў на Міцкевічавы вершы — Бабуля шмат чаго на памяць вывучыла. Чытаць-пісаць збольшага яна навучылася ад братоў, а ў школу і дзьвярэй не адчыніла. Пэўна, у гэтай непісьменнасьці было ейнае, а празь Яе і ўсіхнае наша выратаваньне, бо саўковая псэўдакультура, што ўбівалі нам усім цераз школы, яе як бы й не кранула. І Яна папраўдзе ёсьць той Востраў, што ўзвышаецца над намі ўсімі. О, як лёгка, вольна дыхаецца ў ейным цесным пакойчыку! Ёй, першай, я прачытала свой пераклад Міцкевічавага «Сну». А яна мне — о дзіва! — цэлую нізку Міцкевічавых вершаў у арыгінале! Што грыбы тыя, маладзенькія падасінавічкі, баравічкі, высушаныя зь лета, прыгатаваныя да Каляднага стала. Памяць пра Нашу Культуру... Якую тэму ні закрані, яна пра ўсё дасьведчаная. Ніколі ніхто не асудзіць, толькі дасьць параду, перасьцярогу. Іншая рэч, як мы скарыстаем Ейны Куфар Ведаў Нашай Культуры. Я завяла асобную папку і запісваю туды ўсе драбніцы, што Яна мне расказвае. А цяпер баюся трымаць дома, каб не панішчылі. І Віцю, унука ейнага, папрасіла, каб больш не пісаў мне на Койданаў, ды пісаў на Менск, на Бабулю. Прыяжджалі аднойчы людзі ад яго ў вёску да мяне. Чорт іх прынёс! Патрапілі на вочы маім бацькам. Тыя пасьля ўчынілі мне праўдзівую сярэднявечную інквізыцыю. Ванда, сястра, узначальвала допыты на дыбе... Ушчэнт запалохалі тады майго мужа. Ах, гэта ўсё так знаёма! «Враг народу!» — кляймо на шчырым хлопцы-самасейку, на ўсім родзе Матусэвічавым... Вось даведалася Бабуля, што я на 25 сакавіка была на пляцы Якуба Коласа сярод жанчынаў, што адбівалі нашых мужчынаў ад міліцыянтаў, калі тыя, што каршуны, кідаліся на куранятаў. «Будзь нэўтральнай, ні ў якую партыю не ўваходзь. А што ж гэтыя бэнэфаўцы прыйдуць да ўлады, і яны будуць забіваць, як чырвоныя забівалі». Ах, бабулечка!.. Ці зачне расказваць пра сябе: «Я з васьмі гадоў за матку асталася. Мама мая рана памерла. Мусіць, так трэ было. Усякае бывала. Я ўсё жыцьцё па краечку хадзіла. У вайну сякеру над маёй галавой дзяржалі. А я ні на кога не крыўдую. Сустрэла іх пасьля на Чэрвеньскім. Ну, здраствуйце-здравствуйце. Бог бараніў мяне заўсёды. А калі трэба загінуць, значыць, трэба так». Ах, Бабулечка!..

I гэтая ейная добразычлівасьць — фамільная рыса ўсіх Матусэвічаў. Ласка Боская прасьціраецца на яе за ейны напоўнены келіх душы. «Усё гэта дабрата...» — толькі скажа Яна з сумам. Я здагадваюся, што стаіць за гэтымі словамі. І Леакадзія, дачка яе, добрая, як Марыя Магдалена добрай была, і Віця, унук яе, у турме сядзіць за дабрату сваю, і Андрэйку, другога ўнука, павесілі за тое ж, і Яна сама ўсё жыцьцё нясе крыж, бо некалі, у ліхалецьце, пашкадавала расейскага палонніка... Ах, бабулечка!.. Ня я адна Ёю так захапляюся. Вунь і Юзік, добры гаспадар і мацюгальнік добры, і авантурнік, і выпівоха ня горшы, сказаў: «Я такую Бабу на руках бы насіў!» Да Яе ходзяць, як да Хрыста хадзілі ўночы па Хараство, па Волю. Праўда, такіх мала. А ўдзень Яна сядзіць адна старэнькая, бездапаможная, амаль невідушчая, у бруднай хаце, запоўненай паскуднымі рыжымі прусакамі. Пошасьць распаўзлася па ўсім сьвеце, і страх зьледзяніў людзкія душы. У касьцёлах пужаюць Белым Брацтвам, у цэрквах палохаюць сэктамі. Вось і зрабіліся царкоўнікі (а ёсьць царкоўныя і рэлігійныя людзі) гэткімі вузкімі сэктантамі: мая хата з краю, я нічога ня знаю. Бацькоў маіх ачмурылі. Мая бедная мама сказала мне: «Каб і дзьвярэй да Зоні не адчыніла!» Як забываецца ўсё! Сама ж некалі ляжала з сухотамі, і Зоня вазіла яшчэ яе ў тубдыспансэр... А для майго бацькі Бабуля як бы маці, бо глядзела ўсіх сястрыных дзяцей. Толькі апошняга — Ромку — не гадавала, падаўшыся ў горад. Бабуля зрабіла мне заўвагу: «Чаму ты кажаш так груба: бацька? Трэба казаць: тата».

Але рэч не ў назове. Рэч у чалавечым сэрцы. Ад яго толькі й залежыць далейшая эвалюцыя нашай плянэты...

Як згаварыўшыся, найбліжэйшыя мне людзі сталі душыць мяне эканамічнай блякадай. Гэта была змова Цёмных Сілаў супраць Сьвятла. Яны рабілі гэта не таму, што былі, скажам, мацёрымі бандытамі, яны рабілі гэта з-за страху за свае жыцьці. Іхную цемру, фанатызм выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах царкоўнікі, якія чынілі гэтую агрэсію таксама з-за страху, бо на вачох страчвалі сваю ўладу над людзьмі, што пачалі ўжо ўсьведамляць, дзе свой, а дзе чужы. Мяжа ў гэтым Армагедоне праходзіць па чалавечым сэрцы.

Мой бацька стаў папракаць мяне, нас, што ямо мяса іхных сьвіней і не адпрацоўваем яго. Справядліва, і тут няма чаго крыўдаваць. Старым дзядам цяжка ўжо рабіць, а тром унукам есьці хочацца і працаваць ня хочацца. Праўда, мой Віталік, колькі ні гвалцілі яго на працягу гадоў у школе, каб еў мяса — ані ня зьеў. Можа, менавіта дзякуючы гвалту, бо ён ніяк ня здольны пераносіць яго, хлопец рос у мяне вэгетарыянцам. Гэта цяпер ужо, пад ласкавым уплывам бацькі, ён есьць трохі мяса, але гэта цяпер. А тады я паглядзела на сваё дзіця — жыве ж, не памірае, то й я не памру — і адмовілася наагул ад мяса. Лёгка! Муж хай сам для сябе вырашае гэтую праблему, а ўнукам, калі й дадуць што дзяды, дык, урэшце ж, не чужыя яны ім. Так пачалося маё ўваходжаньне ў Жывую Этыку. Кнігі Вучэньня я чытала кожную вольную хвіліну. А калі воля? Дома ў жанчыны 5 кутоў і часу няма ані. Вось толькі ў электрычках па дарозе ў Менск, да Бабулі, чытала. Аднойчы заснула з раскрытай кнігай у руцэ. Мая незамужняя сястра, якая жыве разам з бацькамі і езьдзіць зь вёскі на працу ў Менск, засьпела мяне за гэтым заняткам. «Я прышла в ужас, кагда ўвідзела, какіе кнігі ты чытаеш!» Так пачалася вайна. Вайна між Касьцёльнымі ці Царкоўнымі Законамі (у нашым выпадку і царква, і касьцёл дзейнічаюць заадно) і Натуральнымі, Касьмічнымі, бо сястра мая Ванда, перабімжаваная па-касьцёльнаму на Тэрэзу, зьяўляецца зацятай прыхільніцай касьцёлу, а я — маці траіх дзяцей. Муж? А што тут крыўдаваць на яго? Вось і Дзіма Таруліс сказаў: «Вы, Ганна, усклалі на яго непасільны цяжар». Так, бо трэцяе наша дзіця нарадзілася на маё жаданьне і безь ягонага ведаму. Сама й заплачу за ўсё. Я сьмяюся: Міколка ў мяне нараджаўся, як Хрыстос на сене, месца яму не было на зямлі. З раддому мяне выганялі, бо пайшла інфэкцыя грыпу. Якраз была зіма, месяц люты. Дома, у інтэрнацкім пакойчыку, таксама хварэлі малыя Віталік з Вэранічкай. Патэлефанавалі маім бацькам на вёску — і мовы няма, тыя зьнямелі ад страху. Пайшла да камэнданткі, упрасіла яе, каб вызвалілі камандзіровачны пакойчык для нас. Паставіла калыску, абвешала яе марляй з часныком — гэткіх вартаўнікоў, і нічога, перакачаліся зіму. А к восені, на Акцябарскія, пераехалі ў маласямейку. Збольшага ўсім далі па аднапакаёўцы, а нам як трохдзетнай сям'і выдзелілі двухпакаёўку. І дзякуй Богу. Тут можна жыць. Але пачалі падрастаць дзеці, пабольшалі праблемы. Міколка ў мяне зусім процілеглы Віталіку. Большы сын у мяне пустадумак, а меншы — дамавік. Віталік лёгкі да навукі, а Міколка — цяжкі. Ён мяне ўдушвае сваімі ўрокамі, а Віталіка я й ня бачу, каб ён тыя ўрокі рабіў. Затое Міколка сам умее адбіцца ад зласьліўцаў. Мне не даводзіцца столькі за ім лётаць, як папалётвала за Віталікам, бароначы яго ад усіх бед. Міколку ўжо не саб'е са шляху ані трактар, ні танк, ён сам цяжкі, як трактар. Да школы Міколка прабыў са мной і добра-такі ўсмактаў з матчыным малаком Нашу Культуру. «Ты гадуй сынка, матуля...» Узгадавала. Бедная расейскамоўная Міколкава настаўніца! Складаная перад ёй стаіць задача! Праўда, яна разумная, і ў мяне зь ёй не было канфліктаў, як зь Віталікавымі, што ўвесь сьвет гарэў. Але на Віталікавым баку — Мудрасьць Нябёс, дармо што Міколка — Воднік. Затое Вэраніка ў мяне — Шалі, і ёй, маленькай, ужо давялося стаць разам са мной на вось па-


Фота Анатоля Клешчука

# КУЛЬТУРА

дзеяў і грацыёзна, як гэта ўмеюць рабіць Шалі, танчыць, накіроўваючы агромністае кола на шлях. Памылкі быць не павінна, інакш уся гэтая махіна абрынецца на нас... Гэтай вясной мы з Вэранікай і Міколкам першы раз убачылі бусла ў сваім гнязьдзе. Але ён не сядзеў, ды стаяў і паволі пакручваў доўгай дзюбай на ўсе бакі. Добрая прыкмета! І Бабуля мяне папярэдзіла: «Не рабі так, каб гвалт быў!» Аднойчы мы з Вэранікай ды Міколкам забеглі да яе перад адыходам у Тэатар Опэры й Балету. Дзіма на «Рагнеду» нас запрасіў. З гэтай нагоды неяк выкраіла ўжо я са свайго заробку вартаўніка грошы і набыла Міколку вялікія не па назе боты і новыя штаны, бо ў старых неданосках ужо нельга было на людзі паказацца. Але беднасьць не загана. Галоўнае, каб дзеці запомнілі Гэтую Падзею. Некалі ж і маім бацькам немаведама якіх намаганьняў каштавала, каб завезьці нас, дзяцей, аж у Рубяжэвічы ў касьцёл да споведзі. Вазіла нас, праўда, ня мама, ня бацька, ды цёця Карольця. Начавалі ў нейкай бабулькі рубяжоўскай. Цяпер касьцёл-царква ня дзіва, і я наўмысна імкнуся трымаць сваіх дзяцей падалей ад гэтых установаў, каб яны захавалі павагу да свайго храму ў душы. Не разбураю бажніцаў, але й не хаваюся ў іх ад Бога. Зрэшты, пра гэта яшчэ скажу асобна. А на балет «Рагнеда» я прывозіла сваіх дзяцей, бо тая старажытнасьць так непарушна зьвязана з нашым цяперашнім сямейным становішчам... Вэраніцы балет надта спадабаўся. Міколку спадабалася катацца на дзядзідзімавай машыне, абодвум — начаваць у незнаёмай прыгожай кватэры. Вэраніка, праўда, прыехала засмучаная. Ёй цяжка было зноў вяртацца ў нашыя жабрацкія катушкі, дзе ўсяго-ўсяго можна было чакаць ад злоснага таты... Усё ж дзеці ўбачылі Новы Сьвет, і я ўдзячная Богу за Зробленае зь Яго дапамогай. А Бабуля пасьля мне расказвала народныя паданьні — якой ласкавай была Рагнеда зь сялянамі, простымі людзьмі.

Вэраніку мы ахрысьцілі ў касьцёле, хлопцаў — у царкве. Ванда — хросная Вэраніччына маці. І цётка, чапляючыся за гэтую прычыну, усё імкнулася зацягнуць сваіх пляменьнікаў, асабліва Вэраніку, у касьцёл. А я сьвядома і ўпарта ім процістаяла. Ім, бо й бацька, і маці былі на баку маёй сястры ў гэтай вайне. Ванду бацькі слухаюцца ва ўсім, бо на ёй хата трымаецца. Тут я зайздрошчу толькі самой сабе, бо ў мяне дзеці — чысты аркуш паперы, мяккі, некрануты плястылін — твары, выдумляй, што хочаш! А ў яе — старыя, прыгнечаныя хваробамі і страхам людзі. Я ёй спачуваю, як спачуваю свайму мужу, але заўсёды памятаю, што я — Маці і раблю сваю справу. А што інакш будзеш рабіць? Трохі павазіла дзяцей па касьцёлах, цэрквах, пазнаёміла іх — ну, і ладна. Далей хай самі выбіраюць. Малітвы сама перакладала з польскай, іх вучыла. Адразу дзяды закармілі ўнукаў цукеркамі, а як падрасьлі, сталі даваць пугі, а пасьля й зусім з хаты на сена прагналі. І добра зрабілі, бо мае прайдзісьветы хату б дзядам перакулілі. «Сама ня ведаеш, як у касьцёл зайсьці, і дзяцей не пускаеш! У споведзі не былі ні разу. Вунь Міцька (брат) сваіх завёз!» — давала мне ў плечы сястра. А раней за тое, што ўсталявала ў сваёй хаце сваю мову, плявала на мяне: «Ты ж беларуска!» Я моўчкі выцірала з твару пляўкі. Яна ня ведала, што я — Ліцьвінка, і ў яе не было Радасьці, якую ўведала я... О, мае дзеці ўжо прайшлі выдатную школу пакутаў і цярпеньня з маленства, і Вэраніка пасьля ціхенька скажа мне пра сваю цётку: «Яна ж па касьцёлах ходзіць, хоць бы раз зайшла да бабкі Зоні». «Перахрысьціцца ня ўмее, малітвам не навучаны!» — нападаў бацька на Міколку, калі яго настрашвалі дзяды. А я, не даслухаўшы ягоных натацыяў, хлопца — за руку, і беглі на электрычку, бо ў нас не было машыны, як, скажам, у Міці, каб прывезьці хоць хлеба й малака Бабулі. У нас і ў саміх часта не было хлеба й малака, але ж мы маладыя. У нас і рукі, і ногі, і вочы, а Бабуля з хаты сама ня выйдзе. І добра, калі хто зойдзе да яе, а калі не... Мінулым летам дзяды ўзялі нас у такія моцныя абцугі, і Вэраніка, упоцемку седзячы на сене, часта выдыхала да мяне зусім як пакутніца: «Мама, мне здаецца, што мы зусім адны на сьвеце. Бабка і кураняты». А то ўспомняць Вэраніка зь Міколкам старое жыцьцё: «А гэта было, калі яшчэ тата быў з намі». Тым летам мае малыя дзеці сталі дарослымі. Не, ведама ж, яны заставаліся дзецьмі, але навучыліся за ўсё плаціць самі, як тое й павінна быць у жыцьці. Не было грошай, каб завезьці іх да Бабулі. Я зьбірала на звалках анучы, паперы, бутэлькі. Здавала гэтыя адкіды, як мы кажам, жыду, і на такія вось заробкі купляла дзецям марожанае, пірожнае — трэба даць дзецям радасьць — ехалі ў электрычках зайцамі. Мне жудасна было пры думцы, што мае дзеці ня будуць ведаць Бабулі! Але цяпер будуць ведаць, бо Вэраніка сказала: «Мамачка, калі ў цябе будзе што-небудзь смачненькае, ты нам не давай, а завязі бабцы Зоні». Міколка мне надта добра памагаў у тых паходах па звалках. Пойдзем зь ім у безграшоўе ў вандроўку ці на роварах едзем, а ён мне бутэлек накалупае, што грыбоў у лесе! Ну й людзі памагалі нам, часта й зусім незнаёмыя, хто разумеў, за што я тузаюся. Уставала а палове на чацьвертую, усю чорную работу імкнулася перарабіць за дзяцей, каб дзяды ўжо ня надта раўлі на іх. Вечарамі ўцякалі на вогнішча. Міколка яшчэ зь вясны назапасіў запалак, паперы, запальнічак — на роспал. Бралі гэтае дабро, ліхтарык і, як сьцямнее — цераз плот, каб ня рыпнула брамка, каб ня ўчулі дзяды (!) — на выган. Аднойчы напала на нас Гарбузішына сучка Цэра. Жах! Вэраніка лезла на вуліцу як чарапаха, крахтала, як жабка. Згледзела Цэру — як страла, узьляцела назад, у дзедаў сад! І ад дабра Міколкавага адраклася! Рагочам цяпер, успамінаючы тыя баі. Дзеці любяць такія хованкі, ды яшчэ, каб дарослыя ўдзельнічалі ў іх. «Мама, ты найлепшая на сьвеце!» — найлепшы падарунак для любой мамы. Заканамерным вынікам такога вось суворага лета сталася нашая зь дзецьмі паездка на Аршанскую бітву, ці то дзень народзінаў Найсьвяцейшай Панны Марыі. Хаваю пакуль дома «Навіны» з нашымі фотаздымкамі.

...Устану гэтак сярод ночы. Дзеці салодка сьпяць на сене. Апранаюся, каб ехаць на ровары за 15 км да Койданава. А там зноў пераапранаюся і бягом на электрычку да Бабулі. Ягад ёй у лесе назьбіраю, зёлак розных, сёе-тое з агароду, але апошняга зусім мала, як украўшы папраўдзе, бо я тут не гаспадыня. Бабуля за ўсё плаціла са сваёй мізэрнай пэнсіі. «Мне ўсё роўна, каму плаціць», — казала. Вэраніка аднойчы прачнулася: «Мама, ты дужая». І зноў заснула. А мне й гэта як праменьчык Сьвятла сярод цемры. Дзякуй, дачушка!

Аднаго разу гэтак прыехала ў Койданаў сьцямна, адчыніла дзьверы ключом — на нашай канапе ляжыць лялечка чужая, з галавой пад коўдрай. Толькі й бачыла сьветлыя валасы ды туфлі ў вітальні. А нічога. Я папрасіла ў мужа дазволу прайсьці ў свой пакой. Тады яшчэ ў яго быў такі вінаваты выгляд і зусім не было гэтай унармаванай сёньняшняй агрэсіі. Разгарнула свае паперы, выкінула адтуль бел-чырвона-белы сьцяг, падарваны мне Вольгай Кацянковай з нагоды прыняцьця ў грамадзянства БНР Віці Матусэвіча... Гэта плата, трэба прыняць. Дастала свае тры вершы, напісаныя некалі ў юнацтве па-расейску і перакладзеныя цяпер па-Ліцьвінску. Ляжаць яны даўно ў «Нашай Ніве» і ў маіх сяброў. Сярод іх вось гэты, як на цяперашні момант напісаны:

Ні рэўнасьці, ні зайздрасьці, ні злосьці

Ні да каго няма.

Выправіла ў «Наша Слова». Хай і там пачуюць Ліцьвінаў. Гэта ж ня проста словы прыгожыя, жыцьцё ў іх укладзена.

Калі муж пачаў бушаваць, далікатна напісала сьвякрові, выправіла ёй беларускі каляндар садавода і агародніка ды фотаздымак мяне з Бабуляй і трыма маімі дзецьмі. Надта дарага гэты здымак каштаваў мне. Віталік у мяне — Блізьняты, вось і разрываўся, бедны, між бацькам і маткай. Аднойчы я ўгаварыла яго паехаць да Бабулі разам з намі. Узялі фотаапарат Адаменкаў. Муж уведаў пра тое, аж пачарнеў ад злосьці. Схаваў мае басаножкі. Ну, я набула старыя, ды паехалі. Зь Віталіка то й пачыналася ўся гэтая бура. Я не хацела дзяліць маіх дзяцей, але далей ісьці з намі яму не па сілах было. Я зразумела гэта, калі яму зрабілася блага на Чэрвеньскім рынку, покі мы хадзілі набываць прадукты для Бабулі. Гэта яго другі прыезд да бабкі Зоні. Усё ж добра, што нас сфатаграфаваў Сяргей. Жыў адзін час у яе хлапец-турэмшчык, покі мы яшчэ не адкрылі цалкам для сябе Нашай Бабулі. Ну, добра. Фотаздымак — гэта дакумэнт, памяць, як і запісы. Таму так і баяцца гэтага Сьвятла цёмныя. А басаножкі старыя аднойчы ня вытрывалі, падраліся. Добра, што хоць у Койданаве, ня ў Менску. Я разбулася, торбы цераз плячо — іду па асфальце басаніж. Нейкі мужык-удавец ішоў з роварам, пашкадаваў мяне. Адбіўся ад сваёй кампаніі мужчынскай, узяў мае торбы. Падвёз да «Люксу», а далей зноў сама панесла.

Сьвякроў улетку двойчы высылала нам даляры ў капэрце і двойчы іх скрадвалі. Але гэта добра. Бо муж падбіваў Вэраніку на перадзел шмацьця, што высылала ягоная цёця Надзя з Аўстраліі. Баяўся, як і мае бацькі, што «Ганька ўсё пазвозіць турэмшчыкам, гэтым кацапам». А Бабуля мне сказала пасьля: «Ты мне нічога іхнага не вазі. Раз яны ня хочуць, мне яно ўсё роўна на пользу ня пойдзе».

Аж нарэшце пад Зьвеставаньне прыехала й сама сьвякроў з Латвіі. 75 гадоў старой, і выправілася ў такую далеч. Прывезла ўсяго. Ну, пашумела трохі на нас з Вэранікай, і тым канчаткова разьбіла даччыныя дзіцячыя ілюзіі. «Запрэцца ў школе, і піша-піша! Што яна там піша? Будзе ўжо трох пісараў!» Звадзіла яе ў царкву 22 сакавіка на Саракі, сорак мучанікаў, значыць. Дзьве сьвечкі купіла на апошнія грошы, што ў мяне заставаліся. Якраз жа аддала ўвесь заробак свой на курткі для Віталіка й мужа. Дала сьвякрові сьвечачку, а сваю паставіла за Кастуся Каліноўскага, якога павесілі ў гэты дзень. У царкве маліліся па-стараславянску, казалі па-расейску, напрыканцы яшчэ настрашылі, каб у сэкты не ўступалі. Як і ўсе, адстояла на каленях, толькі жагналася пяцярнёй ды не трыма пальцамі. Мусіць, спраўна ўсё выконвала, бо нейкі мужык нахвальваў мяне: «Добра, добра!» Толькі крыж не цалавала, бо непрыемна было, то й не чыніла гэткага фарысэйства, хоць сьвякроў і настойвала: «Ну, пацалуй! Што, табе няможна?» Змаўчала. Пазваніць на Віцебшчыну звадзіла сьвякроў на пошту да Барташэвіча. І настойліва запрашала яе прыехаць на ейную бацькаўшчыну ўлетку, на рускага Пятра, сьвята, што надта шануецца там. Сяргей Панізьнік мяркуе арганізаваць там фэст. І добра было б сабрацца нам усім разам у тым месцы!.. А ёй так хочацца пабачыцца з радзімай! О, гэтыя загарадкі, катушкі, сэкты! «Цэркваў многа, а Бог — адзін», — і яна ж казала добра ў свой час. У гаворцы і лістах я называю яе Мамай. Ці здолее ж яна разьбіць катушок у сваім сэрцы? Ці прыедзе ўлетку? Бабуля сказала: «Калі ў яе ў сям'і ўсё гэта было, то яна пойме...» Было ў яе і горш, мусіць, але ці зразумее?.. Гэта Бабуля абараніла маіх дзяцей, сказаўшы, што дзядам ня трэба шумець на ўнукаў, бо ў іх сваё жыцьцё. Але «такіх, як Яна, мала» — прызнала гэта і цётка Маруся, жонка дзядзькі Ромынябожчыка. Яшчэ бабуля казала, што жаніцца трэба з адной нацыяй, значыць, каб падыходзілі адно аднаму. І цяпер я думаю, што ейныя бацькі з Вострава Караліна Валерыя і Ян Матусэвічы адпавядалі, бо інакш адкуль бы ўзяліся такая прыроджаная вытанчанасьць, такая раскоша ейнай душы?

«Что это Вы всё пишете?» — хлопцы на дзяжурстве папыталіся ў мяне! «Ат, рабіць няма чаго!» — адказала. (Асьцярожней трэба быць!) «З запісу пачынаецца гісторыя», — слушна казаў у свой час Сакрат Яновіч, які калісь «цераз усю мяжу в-в-валок» для мяне тоўстую кнігу Міцкевічавых вершаў.

«Ты мяса не ясі, ты бальная на шызафрэнію! Нашто ж гэдак нішчыцца, калі ў нас усё ёсьць?» — крычала на мяне сястра. Але Бабуля аддавала апошняе, каб выправіць пасылку Віцю. Пасьля сядзела ў адзіноце бяз хлеба, без малака... Помню, аднойчы прынесла ёй назад кукурузныя шматкі, што ня ўлезьлі ў пасылку. «Ну, я есьці іх ня буду, можа, другі раз пашлем». Ах, Бабулечка!..

Авэ Марыя!

Бягуць у жаху злыя сілы...

Покі пісала, усё гучаў ува мне матыў з альбому «Сьвяты вечар», падараванага Дзімам. Даўно, яшчэ ў Рызе, пад час дзеяньня (адразу ідзе дзеяньне, пасьля занатоўваньне) «Вечаровай Латвіі, убачанай вачыма ранішняй Ліцьвінкі», мне прысьніўся сон: бягуць у жаху зь лесьвіцаў уніз папы, ксяндзы. Толькі апраткі іхныя чорныя, як цені, за імі імкнуцца. Была ў вёсцы ўчора, гаманіла зь цёцяй Карольцяй.

— Ну што робіць нашая пакутніца Зоня? Пэўна, сядзіць, як крот у нары, адна? — плачучы, найперш папыталася цёця.

— О, не! Яна ўсё ведае і бачыць больш за нас, відушчых і хадзячых.

— Трэ было б неяк у споведзі ёй пабыць. Мама мая ляжала некалі, то я аж зь Дзераўной тры разы ксяндза вызывала. Цяпер жа ў іх і машыны ёсьць. Толькі заплаціць трэба ім. Яна ж сама ня можа дайсьці. Гэта ж нам ганьба будзе, калі ня зробім.

Дзякуй, мудрая цёця Карольця! І праўда, трэба б схадзіць у Чырвоны касьцёл, дзе я замаўляла імшу па ўсіх памерлых Матусэвічах, дзе выкупіла «Пана Тадэвуша» ў іхнай бібліятэцы, дзе купляла каляду і сьвечкі для Бабулі, пагаварыць са сьвятаром. Хіба ж адной мяне Гэтая Бабуля датычыцць? Хіба ж я адна падыму Гэтую Справу?

Праект

# Прымерны Сцэнарый
## Усенароднага празьніка едзіненія Беларусії і Расії «СЛАВЯНСКАЯ СВАДЗЬБА»

**Абаснаваніе:** мнагатысячнае шэствіе і празьнік прадземанстрыруют у піку нацыяналістам і другім дэструкціўным сілам волю народа к вассаедзіненію с вялікім рускім народам. Будзет разрашон мнагалетній дземаграфічаскій крызіс.

**Урэмя правядзенія:** пракрасный летній дзень ва ўрэмя засяданія органаў УСЯРУСІ, празьніка едзіненія ліба празьніка горада. А пагодзе нужна спрасіць у сінопцікаў.

**Атрыбуціка:** цьвяты, музыкальныя інструменты, аграмадныя бутлі зь сівухаю.

**Музыкальнае саправаждзеніе:** студзенты кансерваторыі і другія музыкі іграют туш і мэндэльсона, полечку-трасуху і барыню. У каго нет голаса, слуха і музыкальных інструментаў, пусьць пают «Мы беларусы с братскаю русью...» «Ах эта свадзьба пела-пела-пела..», «Цячэ вада ў ярок...», «Слушай, цёшча, друг радной» і г.д.

**Ідзея такава: С цэлью усенароднай паддзержкі сь нізоў працэса едзіненія Беларусії і Расії і в чыста славянскіх традзіцыях арганізовывается «Славянская свадзьба» сь пеніем і пляскамі.** Учасьнікі празьніка дзеляцца на мужчын і жэншчын. Жэншчыны сабіраюцца на плошчадзі Незавісімасьці, адзетыя в белыя плацьця і туфлі і с фатамі на галовах. Це, кто не імеет фаты, надзевают вынутую із сумкі старую цюль ілі абвязывают голаву кружавамі. Эта будут нявесты. Мужчыны пусьць сабяруцца на пляцы Коласа в чорных касьцюмах, с атглажанымі галстукамі і с бутаньеркамі у пятліцах. Эта будут жаніхі. Скапіўшысь, обе групы па сігналу («Прашчаніе славянкі», ісполненае гарністам) начынают дзьвіжэніе к Акцябрскай плошчадзі, наіболее прыдатнай для такова рода празьнікаў.

У пэўным месцы, напрымер, возьле Жалезнава Фелікса гарніст іграет дамам туш. Па этаму сігналу нявесты пачынаюць маляваціа, дастаўшы з торбачак і кішэняў зеркала, пудру, памаду і прочую жэнскую амуніцыю. Глаўнае — праявіць ўкус, не упадабляясь талпе размалёваных кікімар. Вазможна упатрэбленіе парыкоў і іной успамагацельнай вутвары. Радасна пают кімвалы, брацают бубны, зьвініць гармонік. Звучат сьветлыя песьні славянства.

Есьлі на пуці к жаніхам паявяцца цэпі недавумкаў, жаждушчых іспорціць празьднік, жэншчыны далжны прарваць іх. С крыкамі «Я хачу вассаедзініцца», «Пусьціце, Усярусь!», «Хачу замуж!» дамы брасаюцца на шэі стражаў парадку. Есьлі це прадалжают упорстваваць, дамы абрашчают на ніх сваю нерастрачаную чуўсьцьвенасьць і с крыкамі «Тагда вассаедзінімся зь мянтамі» пакрывают пацалуямі і цьвятамі ліца і шлемы моладцаў, віснут на магучых шэях і дрыгают нагамі. Фэміністкі могуць выражаць свой пратэст крыкам, тупатам ног і ўлюлюканьнем.

Кагда патокі інь і янь сальюцца ў экстазе на плошчадзі Акцябра, увіду адміністрацыі прэзідзента, паяўляецца **Тамада,** он жа Аратар, с громкагаварыцялям. Тамада не даёт празьнікуператварыцца ў банальную вакханалію, ўносіт прэдлажэнія, выкрыківает дэвізы і лозунгі обшчаславянскава садзержанія, крычыт горка, брасает у талпу жыта з кішэні, кароча, тамадзіт. Зачытывает пастанаўленіе:

«Мы, учасьнікі празьніка сімвалічаскага вассаедзіненія «Славянская свадзьба», прызываем і трэбуем:

1. Аб'явіць сазданіе вялікай страны УСЯ РУСЬ.

2. Гасударсьцьвенным языком Усярусі аб'явіць трасянку, штобы не была абідна вялікаму рускаму і мнагастрадальнаму беларускаму народам.

3. Выдаюшчамуся Інтэгратару, прэзідзенту Высшага Савету Усярусі прысвоіць пачотны пажызьненный тытул Глаўнаед (Глаўный едзініцель) ліба Усярусяед. Назначыць яго Пасажаным Атцом Усярусі с пасьледуюшчай каранацыяй і чэстваваніем. Горка!!!»

Каранацыю праізьвясьці тут жа пад звукі васторжаннай талпы. Есьлі сам Глаўнаед пачаму-ліба атсутствует, каранаваць яго партрэт.

Зацем можат быць аб'яўлена расьпіціе сьпіртных напіткаў с мардабоем і атпраўленіем вассаедзініцельных і другіх есьцесьцьвенных надабнасьцей у лепшых традзіцыях сінябокага славянства.

**Са сьлязой ва ўзоры — Старая Панна**

Фота IREX-ProMedia

*Бо заплата за грэх — сьмерць, а дар Божы — жыцьцё вечнае ў Хрысьце Ісусе, Спадары нашым. Рымл. 6:23.*

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**

штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне: вул.Любімава 21-56, тэл.: 279-71-31, 270-89-87;
штонядзелю ў Асіповічах аб 11-й гадзіне: вул.Леніна 40, тэл.: 20-840.

ТАНЮ СЬНІТКО віншуюць з Днём нараджэньня далёкія і невядомыя прыхільнікі яе сьмелай творчасьці і творчай сьмеласьці

## прыватныя абвесткі

**віншаньні**

**Спадарыня Судзілоўская**, мы цябе разумеем. Трымаймася свайго. Дзякуй за мужнасьць. Жыве Беларусь! Казакоў І.

**Віншуем Генадзя і Альбіну Семенчукоў з нараджэньнем дачкі**. Хай расьце здаровая і Багі яе любяць! Улад і Ларыса

**Віншуем Уладзімера і Валю з нараджэньнем сына**. Каб быў здаровы, як дуб скарбовы, а Долю на Радзіме здабываў. Улад і Ларыса

**Віншуем Вольгу з нараджэньнем дачкі**. «Хай прыгожа расьце — мальцаў за хахол трасе!» Здароўя і Шчаснай Долі! Улад і Ларыса

**Віншуем Васіля й Алену з нараджэньнем дачкі**. Хай радзяць Нашыя Багі ёй Шчасную Долю. Улад і Ларыса

Музыканты Беларусі віншуюць **з Днём нараджэньня легенду беларускага блюзу, знакамітага гітарыста Леаніда Вярэніча**

**Гушчынскую Людмілу віншую з народзінамі**. Зычу каханьня, волі, ажыцьцяўленьня самых запаветных мараў. Брат Ігар

**Наташа!** Вітаю цябе і спадзяюся на сустрэчу. Усьміхніся, і усё будзе добра! «Арганізацыя»

**Насьцечка**, калі я ў чымсьці вінаваты перад табою — даруй. Ты ўсё роўна самая лепшая! Massimo

**Аленка С.**! Штосьці ня ўсё складна ў нашым каралеўстве, ажно сэрца, здаецца, вось-вось спыніцца, ды і ў горле нейкі цяжкі камень так засеў, што нават дыхаць усё цяжэй і цяжэй. Сяржук

**Шчыра жадаем Віктару І.**, абаронцу рабочых, займець выгляд беларускага рабочага. Віктар Страпалёў

**ідэі**

**Каму заміналі** дрэвы ля рэдакцыі «Беларускай Энцыкляпэдыі»? Здаецца ж, лісьце на іх было звычайнае, а не чырвона-белае. Чытач зь Менску

**Лукашызм** — фашызм. Тэадор

**Жыве справа** Чэ Гевары! Лістуйце: а/с 40, 210033, Віцебск

**Як сьцьвярджае зорніцтва**, Сонца ня мае спадарожніка. Напішам новы падручнік? Сонейка (самае галоўнае)

**Аднойчы Вожык** трапіў на Месяц. І падумаў, самотны: «Дзе маё Сонейка?» Вожык

**Ізноў ты**, Ліцьвіне, за сваё: заходнія, усходнія... Мы — Беларусы! Адмарозак

**Лепш атэіст**, чым фанатык. WOOD

**Нацыянал-дэмакратыя** — лад новай Беларусі. Адраджэньне за ВОЛЯЙ. Жыве ЭўраБеларусь!

**Лепей болей ды лепей!** Ударым дэмаграфічна-інтэлектуальным выбухам па «бульбонскай» стагнацыі! Крывічы

**Бел-чырвона-белы сьцяг** — сьцяг Хрыста! Нацыянальная ідэя

**Беларушчына**, беларуская форма мусіць быць бездакорнай, найдасканалай — каб несьці найвышэйшы хрысьціянскі, Божы зьмест. Нацыянальная ідэя

**Беларусь перамагае** любоўю і верай, а ня гвалтам або тэрорам. Беларусь — гэта сьвятое. Вясна-2000

**«Няхай не сумняваецца** сэрца Вашае. Веруйце ў Бога і веруйце ў Мяне». Яна 14:1

**Госпад ёсьць Духам**, а дзе Дух Госпада, там свабода. II Кар. 4(17)

**Дык што** на гэта скажам? Калі Бог з намі, дык хто супраць нас? Рым. 8 (31)

**Хачу цёмнага піва**. Берасьцеец Вянтура

**Невуцтва бывае** пастаўлена на вялікай вышыні, а заможныя сядзяць нізка. Э.10.6

**Пераклад**: Я цябе кахаю. Наталька Базылевіч

**Адна з прычынаў нашае слабасьці** — рознасьць бачаньня мэты — краіны, у якой мы хочам жыць — Крывія, ВКЛ, Рэч Паспалітая, БНР ці Рэспубліка Беларусь. Яўген Малікаў

**Жыве «Наша Ніва»** — праўдзівая беларуская газэта! Казакоў І.

**Папуасы усе тыя дыктатары** ды іншыя, хто кажа: «Біларусь», «вісёлка», «біроза», «вілікі», «рыспубліка Тылібан», «тылібачыньне», «мільёноў», «Йіврропа». Заўважнік

**Калі мы ня маем ніякага дачыненьня** да Русі і нас не абмаскальваюць, а менавіта «русіфікуюць», навошта тады звацца БЕЛАрусамі? Казакоў І.

**Ствараецца антыгаварыльная партыя** для тых, хто замест унівэрсальных гавар-гавораў карыстаецца неўнівэрсальнымі словамі: казаць, гаманіць, мовіць, гутарыць. Казакоў І.

**Гаварылы, гаварылы...** А я маленькі такі, І ніхто не разумее, Бо таму што... (індыкі). Той самы

**Няма рускіх — ня ўсходніх славян**, як і няма ўсходніх славян — ня рускіх. Ёсьць 3 асобныя ўсходнеславянскія, альбо рускія, народы. Праўда, адзін зь іх ужо амаль абмаскалены. Казакоў І.

**кантакты**

Дапамажыце дастаць **зьвесткі пра месца пахаваньня К.Лейкі**. У хуткім часе еду ў Здалбунаў. Музэй «Літаратурная Случчына», адгукніцеся. Канстанцін Канцавы, Магілёў, 212033, вул.Народнага апалчэньня, 6/47. Т.: 23-48-74

Буду ўдзячны за любую інфармацыю пра **цяперашнюю дзейнасьць уніятаў у Беларусі**. Алесь. 222310, Маладэчна, вул.Вушацкая, 21

Зьбіраю зьвесткі пра **архітэктурныя помнікі, зьнішчаныя пасьля вайны. Рэгіён: Вялейка-Маладэчна-Мядзел** (паштоўкі, здымкі). Алесь. 222310, Маладэчна, вул.Вушацкая, 21

Буду ўдзячны за любую інфармацыю пра **Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю і яе выхаванцаў**. Алесь. 222310, Маладэчна, вул. Вушацкая, 21

**Прывабны мянчук 46 гадоў** ня траціць надзеі на сустрэчу з каханай. Зьвязаны клопатамі пра брата-інваліда. В., 220007, а/с 221, Менск-7

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў у вайсковай ці міліцэйскай форме. А/с 78, 220141, Менск

**Паўлік**, пачым опіюм для народу? Васіль Брыкун

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Куплю** часопісы **«Беларуская думка»** (№ 1—3/99), **«Магазін Польскі»** (№ 3—4/98), кнігу **«Пачатае Скарынам»**. Т.: 262-67-02

Увага! Зьявіўся **4-ы нумар газэты «Верас»** — курс маладога беларуса. Капэрта. 210032, а/с 29-А

**«Палімпсэст» № 7—8**. Ад Вас — чыстая капэрта. П/с 29, 211409, Полацак

**Алесь Аркуш «Выпрабаваньне развоем»** (эсэ, артыкулы) — 600 руб. Замова: Козіку Аляксандру, а/с 14, Полацак-13, 211413

Усе цікаўныя дахрысьціянскай Спадчыны беларусаў, **замаўляйце новы нумар часопісу «Крыўя»**. Дасылайце 1 тыс. руб. на адрас: 220050, Менск, а/с 342

Інфармацыйнай эры — націск інтэлекту. Правакансэрватыўнае выданьне **«Слова Нацыі»** кліча Здольных. Замаўляйце № 1"2000, № 2"2000: 220086, а/с 121, Менск

**Слоўнік Станкевіча**, беларускія падручнікі па бугальтарскім уліку (Ладуцька і інш.) куплю. Т.: 226-42-63

**ПОСТ № 1**. Замаўляй ды чытай. Ад цябе — толькі замова. Ад нас — дасылка твайго чытаньня. А/с 38, Наваполацак-6, 211440

**«Пост» = «пасьля»**. «Пост + мадэрн» = «пасьля сучаснага». Будучыня — ужо сёньня. ПОСТ № 1. А/с 38, Наваполацак-6, 211440

**«Радавая Беларусь»** — гэта твая Бацькаўшчына сёньня! Дашлі нам капэрту з маркаю, 50 р. + купон б/а, мы табе — апошні нумар. А/с 169, 220030, Менск

**Беларускія Біблію, Эвангельле**, духоўную літаратуру куплю. Т.: 226-42-63

**маечкі**

**Маечкі з Клапом Бабарам** яшчэ ня скончыліся. Яны чакаюць Вас! Тэлефануйце хутчэй: 263-43-50 (а 21-й гадзіне)

**музыка, відэа**

**Беларуская музыка** у Берасьці! Усе, хто яе любіць, зьвяртайцеся па касэты і CD (шырокі выбар). Т.: 24-54-56, Сяржук

**«Ісус» ды іншае відэа** на беларускай мове. (Жадаеце каталёг — дашліце капэрту + купон на адрас 220107, а/с 150 ці наведайце сайт http://belvidea.cjb.net)

**Беларускі Відэаклюб** рыхтуе: мультфільм «Кароль Леў», фільмы «Матрыца», «Прыгажуня», «Бэтховэн», «Агнём і мячом», «Пан Тадэвуш». Зьбіраем заяўкі. 220107, а/с 150. E-mail: belvidea@hotmail.com

**праца**

**Макет і вёрстка** вашых выданьняў. Т.: 257-81-85, Марына

**В/а праца** ў хаце (ад 200$). Ад Вас: купон б/а + капэрта са зв/а. 230013, Горадня-13, вул. Касманаўтаў 100, а/с 123

**ровары і намёт**

Прадаю **ровары «Турыст» і «Старт-шаша»** б/у, **намёт** 3-х месцавы, польскі б/у, усё танна. Т.: 226-42-63, Сяргей

**СЛАВАМІР АДАМОВІЧ просіць чытачоў і рэспандэнтаў пісаць яму на адрас: Fundacyja imia Piotry Krečeuskaha 166-34 Gothic Dr., Jamaica, New York. 11432. USA Для e-mail'аў можна выкарыстоўваць адрас lyurevich@nypl.org**

## паштовая скрынка

**Віктару Ф. зь Менску.** *Тэмы некаторых карыкатураў драбнаватыя і плюгкія. Зашмат таксама аднаго вядомага пэрсанажа, які ўжо ўсім аскому нагнаў.*

**Дзьмітрыю К. зь Менску, Уладзімеру Л. зь Берасьця.** *Гэта тэксты для рэклямных буклетаў, а не артыкул і інтэрвію. Няма праблемнасьці, няма характва, затое шмат кампліментаў і ўсім вядомых праўдаў. Хоць і Скарынаўскі цэнтар, і Ўсходняя летняя школа — інстытуцыі, пра якія безумоўна варта разважаць і пісаць.*

**П.Гер-чыку з Горадні.** *Кальвіністы лічаць адзінай крыніцай веры Біблію і вераць у наканаванасьць чалавечага лёсу. Сьмяротным грахом кальвіністы лічаць марнаваньне часу, невытворчае стаўленьне да капіталу, заспакоенасьць на дасягнутым у кар'еры й багацьці. З таінстваў прызнаюць толькі хрышчэньне. Абразоў, алтароў, арганаў не прызнаюць. Прасьвітэраў выбіраюць сабе на пэўны тэрмін, сьвятароў жа і біскупаў ня маюць. У Беларусі яны ёсьць з 1533 году, усяго існавала да 200 кальвінскіх збораў. Цяпер толькі адна суполка ў Менску. Скантактавацца зь імі можаце праз тэл. (017) 213-34-52, Аляксей. Эвангелісты-баптысты і ў Вас жа ў Горадні ёсьць.*

**Янку І. з Кобрыню.** *Каб жа гэта быў адзіны доказ фальсыфікацыі таго рэфэрэндуму...*

**Лявону В. з Мастоў.** *Дзякуй. Ці ня лепш было ахвяраваць тую паперу на патрэбы нейкай газэты ці часопіса?*

**Аляксандру Г. зь Менску.** *Ваш артыкул — гэта чыстая культуралёгія. Культуралёгія — прадмет, модны на абшарах былога СССР. Але мы гэткага ня любім, бо зашмат тутака неканкрэтнасьці і прапаганды. Апроч таго, у беларускай мове літара Ё ніколі не замяняецца на Е, інакш «лес» можна пablытаць зь «лёсам».*

**Алесю Б. з Мышкавічаў, Андрусю К. з Магілёва.** *Дзе Ваша сапраўднае імя, дзе псэўданім? Такія рэчы трэба падпісваць сапраўднымі імёнамі.*

**Віктару К. зь Ліды.** *Напэўна, няма ніякай аб'ектыўнай патрэбы, каб мы з Вамі думалі аднолькава. Але мы жывем у адной краіне, таму глядзіце на нас не як на ворагаў, а як на іншых. Калі мы іншыя, гэта зусім ня значыць, што мы павінны зьнікнуць, а Вы — застацца, ці наадварот. Верагодна, Вы абралі сабе для чытаньня наблізкую па думках і духу газэту і маеце магчымасьць зьмяніць выбар.*

**Яўгену М. з Гомеля.** *Вам дасьць усю інфармацыю аб праграмах ЮНЭСКА Алесь Істомін. Тэл. у Менску (017) 227-34-62.*

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3761. 6 палос фарматам A2. Нумар падпісаны ў друк 22:53, 21.05.2000 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2523. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас. Менск, Бабруйская, 19/36